# НАША НіВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №16 (173) 17 КРАСАВІКА 2000 г.


## Не страляйце ў Пуціна!

Вяртаемся мы ўчора з жонкаю з царквы са сьвячонаю вярбою, а ў нас пад дзьвярыма стаіць міліцыянт. І з чым, думаеце, заявіўся? Кажа, сёньня ні ў якім разе не высоўвайцеся на балькон. — Што такое? — А Вы ня знаеце? Пуцін прыяжджае, будзе кветкі да Перамогі ўскладаць. — Ды ад нашага дому да плошчы Перамогі 400 мэтраў будзе! — А ўсё адно загадана на бальконы нікога не пускаць.

Вось жа жонка цэлы дзень баялася да вакон падыходзіць — чорт тых расейцаў ведае!

**Барыс Тумар**

### Каледж імя Кіта

Баранавіцкі недзяржаўны эканоміка-юрыдычны каледж зьвярнуўся да Барыса Кіта з прапановай надаць Каледжу ягонае імя. Днямі прыйшоў адказ з Франкфурту: сп.Кіт даў згоду.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

### Адзін дзень у крэсьле

Менавіта столькі часу правёў у крэсьле начальніка сельгасупраўленьня ў Астраўцы старшыня калгасу «Сьвітанак» Мастоўскага раёну Мікалай Жывушка. Прыехаў, пабачыў стан рэчаў у калгасах, дзе, дарэчы, у некаторых ужо пачалі даразаць жывёлу, і зьехаў на ранейшае месца працы. А за бюджэтныя грошы яму ўжо былі падрыхтавалі катэдж.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### Бясплатны суботнік

15 і 22 красавіка працоўныя, школьнікі, студэнты адпрацоўваюць суботнік. Адпаведныя распараджэньні выдалі ўсе кіраўнікі выканкамаў. Паводле гэтых распараджэньняў, ёсьць усенародная просьба папрацаваць бясплатна. А зробленыя грошы куды-небудзь пералічыць. Вось вэртыкаль і выконвае загад народу. У Магілёве грошы зь яго накіруюць на аднаўленьне гарадзкой бальніцы. Усё б добра, каб ня пэўныя акалічнасьці. Па-першае, ніхто ня ведае, колькі насамрэч будзе зароблена, па-другое, ніхто не кантралюе, куды насамрэч накіруюць сродкі.

### Суды ў Бабруйску

У Бабруйску 28-гадоваму настаўніку гісторыі Алесю Чыгіру судзьдзя Савасьцянчык вынесла папярэджаньне: 25 сакавіка, у Дзень Волі, Алесь прыйшоў на плошчу Перамогі з двухгадовай дачкой, якая несла ў руках бел-чырвона-белы сьцяжок. На плошчы ў той дзень сабралася каля 300 чалавек. Яны толькі і рабілі, што шпацыравалі па плошчы і размаўлялі адзін з адным. Нічога не рабіў адметнага і Алесь: не выступаў, не разгортваў плякатаў. І ўсё ж яго затрымала міліцыя і абвінаваціла ў незаконным мітынгаваньні. Галоўным жа доказам віны была маленькая дачка з гістарычным беларускім сьцяжком у руках. Усяго 25 сакавіка ў Бабруйску было затрымана 14 чалавек, 8 з якіх — школьнікі. Суды працягваюцца.

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

## Беспрэцэдэнтная рэзалюцыя Кангрэсу ЗША пра Беларусь

Камітэт міжнародных зносінаў Палаты Прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША ўхваліў праект рэзалюцыі ў справе Беларусі, прадстаўлены кангрэсмэнам Сэмам Гейдэнсанам, бацькі якога паходзяць зь Беларусі і былі ў вайну ўратаваныя сялянамі Параф'янава, што пад Докшыцамі.

Рэзалюцыя №304 асуджае рэжым А.Лукашэнкі і патрабуе ад Расеі перастаць спансараваць яго. Гейдэнсан адзначыў у сваім праекце неабходнасьць падтрымкі тых, хто пакутуе ў выніку нелегітымнага кіраваньня А.Лукашэнкі. Дакумэнт асуджае палітычна матываваныя арышты дысыдэнтаў і патрабуе іх неадкладнага вызваленьня. "Лукашэнка ўжывае тактыку зацягваньня перамоваў пад эгідай АБСЭ. Атмасфэра рэпрэсіяў і страху ў Беларусі выключае любую магчымасьць правядзеньня сёлета свабодных і справядлівых выбараў", — заявіў Гейдэнсан.

У рэзалюцыі асуджаецца таксама падпісаньне саюзу з Расеяй і ставіцца пад сумнеў легітымнасьць яго, бо дэмакратычна абраны Лукашэнка летась страціў права падпісваць такія дагаворы ад імя дзяржавы. «Дамова парушае сувэрэнітэт Беларусі і волю беларускага народу», — заявіў сп.Гейдэнсан. Адзначаецца таксама, што дамова пярэчыць мэмарандуму аб гарантыях бясьпекі, падпісанаму прэзыдэнтам Ельцыным у сьнежні 94-га ў часе саміту краін-сяброў АБСЭ ў Будапэшце. Нарэшце, рэзалюцыя заклікае прэзыдэнта Клінтана ўзьняць пытаньне фінансавай падтрымкі лукашэнкаўскага рэжыму з боку расейскага ўраду. Гейдэнсан адзначыў, што фінансавая падтрымка Крамлю, у прыватнасьці, зьніжаныя цэны энэрганосьбітаў, дазваляе Лукашэнку ўтрымліваць вялікія паліцэйскія сілы. Дакумэнт заклікае адміністрацыю Клінтана даць Кангрэсу справаздачу з канкрэтных крокаў, дзеля таго каб прымусіць урад Расеі перастаць падтрымліваць рэжым Лукашэнкі і адмовіцца ад інтэграцыі зь Беларусяй у вайсковай галіне.

Рэзалюцыя абяцае быць беспрэцэдэнтная. Яе падтрымалі ўжо 130 кангрэсмэнаў.

**Паводле Радыё Свабода**

# ЦЫРК ЗА ДРОТАМ



Тацяна Бандарчук з Максімам Нікуліным, сынам слыннага расейскага клоўна Юр'я Нікуліна



Сяргей Бандарчук і падступная Тацяна Цімчанка

Дырэктарку Беларускага цырку Тацяну Бандарчук арыштавалі ў той панядзелак а восьмай вечара. Яе сын, Сяргей Бандарчук, працуе ў цырку дырэктарам праграмаў. Спачатку ён не зьбіраўся зьвяртацца да прэсы. Але цяпер, калі стала ясна, што арыштавалі жанчыну надоўга, ён пагаварыў з журналістамі «НН».

Накат на дырэктарку пачаўся з паўгода таму, калі зь міністэрства культуры далі зразумець: Бандарчук пара пайсьці. Тут бы ёй і ціха сысьці, як зрабіла б тое большасьць людзей пры ўладзе. Але ці мог так зрабіць амбітны чалавек, які дабіўся пасады шматгадовым змаганьнем за месца пад сонцам і адчуваў за плячыма нядаўнюю падтрымку Лукашэнкі?

...На дырэктарку заяву ў органы напісала яе сяброўка. Спачатку Сяргей Бандарчук кажа — «лепшая сяброўка»... Потым папраўляецца. Да яго ня можа дайсьці, як тая, хто разам зь ім забірала з раддому ягоную жонку і народжаную дачку, магла зрабіць такое: данесьці, быццам Бандарчучка вымагае ў яе хабар, потым, са шпіёнскай апаратурай пад пахаю, клікаць ахвяру на размову, перадаваць ёй пасьля тут жа разыграных «сваркі» і «прымірэньня» канвэрт з пазначанымі грашыма...

Паводле словаў Сяргея, грошы тыя яго маці ў свой час Тацяне Цімчанцы проста пазычыла. Пры сьведках!..

Тацяна Цімчанка таксама працуе ў цырку. Яе таксама ведаюць тысячы дзяцей і дарослых. Тацяна дрэсіруе цюлені. І цюлені тыя ёй тэрмінова спатрэбілася вывезьці за мяжу. Але жывёліны гэтыя, як сьцьвярджае Сяргей Бандарчук, ні ёй, ні беларускаму цырку не належалі. А мела на іх «маёмасныя правы» расейская цыркавая кампанія, і каштавала кожная жывёліна каля 15 тысячаў даляраў. Такія адносіны прынятыя ў сьвеце, і крыміналу тут няма. Але...

Сяргей кажа, што Тацяна Цімчанка мела блакітную мару — завесьці ўласны цырк і вандраваць зь ім па сьвеце. А для цырку патрэбныя зьвяры — ня толькі ж клоўнамі весяліць публіку. Вось і хацела яна вывезьці свае цюлені за мяжу любой цаной...

І свара паміж сяброўкамі адбылася. З-за таго, што Цімчанка саматугам заключыла кантракт на гастролі з варшаўскім цыркам пад той час, калі на стале дырэктаркі ляжала тэлеграма з Масквы, ад уладальніка атракцыёну — забясьпечыць выступленьне ў іншым горадзе. Потым, праўда, яго адмянілі, але згоды на гастролі ў Варшаве не далі. Таму і сказала Бандарчук сваёй падначаленай сяброўцы: цырк табе дарогі да Варшавы аплаціць ня можа... У панядзелак Цімчанка запрасіла спн.Бандарчук да сябе ў грымёрку. Быццам бы, памірыцца...

...Калі дырэктарку цырку выводзілі ў калідор, на выхадзе перад канвоем стала жывая сьцяна з артыстаў і студэнтаў цыркавай вучэльні. Але супраць сілы не папрэш...

Сяргей Бандарчук паўтараў пад час размовы, што маці «проста падставілі», магчыма, паабяцаўшы Цімчанцы за гэта не рабіць забаронаў на вываз жывёлінаў. Магчыма. Пытаньняў з гэтай справе больш, чым адказаў. Цягам апошніх месяцаў з цырку не вылазілі праверкі — АБЭЗ, КРУ мінкульту. Тое, што выкрывала адна праверка, абвяргала другая. Але крымінальную справу за «шкоду дзяржаве», узбуджаную проці дырэктаркі пару месяцаў таму, усё ж закрылі. «За бракам складу злачынства».

Большасьць супрацоўнікаў цырку тое, што адбылося зь іх дырэктаркай, лічаць ня карай за злачынства, а чалавечай трагедыяй.

Вядома, за вярсту патыхае ад усяго гэтага «разборкамі сярод сваіх» — Тацяна Бандарчук працавала ў вар'етэ, перш чым стаць блізкай да ўладных колаў, а Радыё Свабода сьцьвярджае, што сваім прызначэньнем яна абавязаная таму, што яе пляменьніца замужам за сынам палкоўніка Заматаліна. Жыве яе сям'я ў трохпакаёўцы ў адным доме зь Лінгам і іншымі такімі.

Мяркуючы па ўсім, мы маем новую «справу Віньнікавай», якая таксама была не апошнім, хоць і нетыповым і няясна як пранікным чалавекам ва ўладных структурах. І маем яшчэ адну жанчыну ў жудасных беларускіх турмах, умовы існаваньня ў якіх — злачынства супраць чалавецтва...

Хоць Тацяна Бандарчук чалавек зусім не беларускай культуры і манераў, згодзімся з амбасадарам Злучаных Штатаў сп.Спэкградам, які адразу пасьля арышту Тацяны Бандарчук накіраваў у МЗС Беларусі запыт, у якім запатрабаваў адзінага і галоўнага: павагі да правоў чалавека і ў яе выпадку таксама.

**Тацяна Сьнітко, Алесь Палынскі**

# ФУХІМОР

*Пэруанскі* hombre fuerte *амаль як наш — аграном, антытэрарыст, "нацмен"*

У нядзелю 9 красавіка ў Пэру адбыліся прэзыдэнцкія выбары, вынікам якіх стаў скандал вакол падтасоўкі бюлетэняў. Фухіморы пасьпяшаўся абвесьціць аб сваёй перамозе. Абураны шматлікімі парушэньнямі Выбарчага кодэксу, супернік цяперашняга прэзыдэнта Алехандра Таледа вывеў на вуліцы тысячы людзей, якія выказалі свой пратэст супраць непрыкрытага махлярства ўладаў. Праўда перамагла: скрупулёзныя лічыльнікі прысудзілі Фухіморы 49,84% галасоў, а ягонаму галоўнаму апанэнту — крыху больш за 40%.

Калі пра Таледа вядома хіба тое, што ён неблагі эканаміст, дык Фухіморы па сваёй адыёзнасьці займае другое пасьля Пінача месца ў Лацінскай Амэрыцы. Маленькі, сьціпленькі на выгляд японец Фухіморы стаўся сымбалем жорсткай нэалібэральнай палітыкі. Пэруанскія сымпатызанты лічаць яго *hombre fuerte* — "моцным чалавекам".

Працяг на старонцы 5.

## Два мільёны і 10 дзён у калгасе

Ашмянскія мытнікі, калі атрымлівалі заробак, не далічыліся два мільёны рублёў кожны. Ім патлумачылі, што грошы пойдуць на падтрымку калгасаў. Але на гэтым усё ня скончылася. У дадатак кожны мытнік павінен адпрацаваць на калгасных палетках па дзесяць дзён.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

## Ляпі, але ня сьпі

У чацьвер 13 красавіка ля Акадэміі міліцыі былі затрыманыя маладафронтаўцы Алег Базараў, Максім Рудзянкоў і Аляксей Шпрыкаў. Яны былі схопленыя нейкімі не нашмат старэйшымі за іх вернападданымі «блакітнымі хлопчыкамі» й абвінавачаныя ў расклейваньні налепак «Чарнобыльскі шлях— 2000. Мы — народ» (гл. на с.4).

Міліцыянты змусілі хлапцоў паказаць месца, дзе яны ўзялі налепкі. Напалоханыя хлопцы прывялі «ахоўнікаў парадку» ў сядзібу БНФ, дзе тымчасам адбывалася паседжаньне Управы моладзевай арганізацыі Фронту. Маладзёны ў форме нахабна патрабавалі паказаць ім месца, дзе ляжаць налепкі. Натуральна, што гэткага месца ім ніхто не паказаў, дый налепак у сядзібе БНФ, ясная рэч, не аказалася. Тады адзін з «блакітных», напэўна, найдасьціпнейшы, папрасіў налепак «для сябе». Урэшце, празь пятнаццаць хвілін міліцыянты пакінулі памяшканьне на Варвашэні 8, забраўшы ў Савецкую раённую ўправу нутраных спраў (гэтак цяпер мянуецца колішні РАУС) схопленых маладафронтаўцаў. Туды сама паехала й дэлегацыя на чале з Паўлам Севярынцам вызваляць ахвяры.

Анэкдатычнасьць сытуацыі ў неасьцярожнасьці затрыманых, узятых проста між сядзібаю Фронту й Акадэміяй міліцыі.

**Віктар Мухін**

## Унівэрсытэтаў, як гразі

У Магілёве зьявіўся днямі шчэ адзін унівэрсытэт. Статус такі надалі Магілёўскаму машынабудаўнічаму інстытуту. Як жартуюць сьмехачы, хутка па колькасьці ўнівэрсытэтаў на душу насельніцтва Магілёўшчына апярэдзіць найбуйныя сталіцы Эўропы. А што вы думалі? Цяпер у вобласьці аж 5 унівэрсытэтаў. Аднак сказаць, што з тае нагоды пабольшала адукаваных і пісьменных людзей, пакуль цяжка. Машынабудаўнічы інстытут апошнім часам трэсьлі скандалы, зьвязаныя са шматлікімі злоўжываньнямі колішняга кіраўніцтва. Кіраўніцтва зьмянілі. Скандалы замялі. А інстытут зрабілі ўнівэрсытэтам. Прычым мяркуецца, што ў будучым ён стане беларуска-расейскім. Ну, бадай, з такім узроўнем адукацыі беларуска-нямецкім ня станеш.

## Без падлогі, без шпалераў

Будаўнікі перажываюць сур'ёзную крызу вытворчасьці. Афіцыйная статыстыка, праўда, паведамляе іншае: маўляў, паказчыкі першага кварталу гэтага году вышэйшыя за леташнія на 190%. Але яны дасягнуты праз заканчэньне будоўляў зь мінулага году. А новае, як і ў старыя часы, усё ўзводзіцца паводле прынцыпу «абы фундамэнт быў». Пра вастрыню крызы сьведчыць, напрыклад, тая акалічнасьць, што ўпершыню будаўнікам афіцыйна дазволена здаваць дамы зь недаробкамі. У прыватнасьці, тынкаваць і падлагі масьцідзь цяпер не абавязкова. Канечне, хай дзядзька дарабляе.

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

## Прыбралі вакол Каложы

У тамтую суботу ў Горадні актывісты Маладога Фронту, Маладой Грамады і Альянсу Вітаўта Вялікага правялі суботнік, чысьцячы ад сьмецьця тэрыторыі каля Калоскай царквы. Моладзь пляные праводзіць такія акцыі кожную першую суботу месяца, — паведамляе Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў. Хто хоча, можа дазнавацца ў сядзібе БНФ.

**Б.Т.**

## Сама адна

12 красавіка на плошчу Незалежнасьці зь бел-чырвона-белым сьцягам у руках выйшла Ніна Багінская. За руку яна трымала свайго ўнука.

Міліцыянты затрымалі яе і завезьлі ў пастарунак, дзе яна заявіла, што такім чынам нагадала грамадзянам Беларусі пра зьбіцьцё дэпутатаў ад БНФ у красавіку 1995 году ў залі Вярхоўнага Савету. Міліцыянты склалі на Багінскую пратакол аб парушэньні закону пра шэсьці і мітынгі. У хуткім часе яе маюць судзіць. Ці будуць судзіць яе малога ўнука, пакуль невядома.

**Праваабарончы цэнтар «Вясна-96»**




Фота IREX-ProMedia

## Мэра Паўлава прызналі вінаватым

12 красавіка скончыўся суд па скарзе сп.Мезяка на незаконныя дзеяньні Баранавіцкага гарвыканкаму. У.Мязяк падаў заяўку на правядзеньне 15 сакавіка пікету да Дня Канстытуцыі. Выканкам даў згоду на пікет, але не 15 сакавіка, а 22-га. Адказ быў падпісаны тады ягоным старшынём М.Паўлавым. Тым самым Паўлаў парушыў закон аб сходах: можна памяняць месца правядзеньня акцыі, але ня форму і ня дзень. Таму суд часткова задаволіў скаргу В.Мезяка і рашыў, што М.Паўлавым парушаны закон. Суд абавязаў гарвыканкам кампэнсаваць усе матэрыяльныя страты заяўніка. А вось выбачэньняў ад выканкаму суд не вымагае: няма ў нас такога закону, каб улада перад людзьмі выбачалася за памылкі.

**Беларускі Гельсынскі Камітэт**

## За нацыстаў возьмуцца ўлады

У Горадні прадстаўнікі дэмакратычных арганізацыяў пару разоў падавалі заявы ў пракуратуру, каб узбудзілі крымінальную справу супраць РНЕ, што яна б'е шыбы ў сядзібе Народнага Фронту і засьмечвае горад нацыскай сымболікай. Нарэшце пачаўся разгляд заяваў.

**Б.Т.**

## 12 дзетак загінула на Віцебшчыне

За тры першыя месяцы году на Віцебшчыне адбылося 352 пажары. У полымі загінуў 71 чалавек, зь іх 12 дзетак. Проці мінулага году намнога больш: за ўвесь мінулы год пажары ўкралі ў нас 181 жыцьцё, зь іх 13 дзіцячых. Вядома, найбольш пажараў узімку, калі ў грубках паліцца.

**Андрэй Аляксандраў, Наваполацак**

жарт




лісты ў рэдакцыю

## У нас у Коханаве

*Усплёск нацыянальнай і дэмакратычнай актыўнасьці грамадзтва даўно перайшоў мяжу Менску. Усё часьцей і часьцей можна прачытаць пра пікеты, вывешаныя сьцягі ды надпісы на сьценах у Віцебску, Магілёве, Горадні. Нават у райцэнтрах гэта становіцца звычайнай зьявай. Але ўсе пералічаныя вышэй паказчыкі актыўнай прысутнасьці неабыякавых да Беларусі людзей зусім, праўда, як бы ня тычацца мястэчак, вёсак, жыхары каторых складаюць амаль траціну насельніцтва краіны. Але ёсьць і выняткі, хоць іх небагата.*

*Ня буду казаць за ўсіх. Раскажу пра любае мне мястэчка Коханава. Пра дзейнасьць NGO's, патрыётаў і проста звычайных людзей.*

*Каб было нейкае ўяўленьне пра Коханава — крыху інфармацыі. Жыхароў каля 6 тысячаў, людзі, што зьехаліся з усяго былога СССР, школа на 1200 вучняў, вучэльня, два экскаватарныя заводы, ЖБВ і шмат дробных прадпрыемстваў. Знаходзіцца між Воршай і Талачыном, на шляху «з азіятаў у эўрапейцы» — трасе Масква-Менск.*

*Як бачым, патэнцыялу для эканамічнага разьвіцьця хоць адбаўляй. Але ж больш за палову мужчынаў мястэчка езьдзяць на заробкі ў Расею. А адтуль, наадварот, прыяжджалі газавікі, клалі газаправод «Ямал — Заходняя Эўропа». Перапорцілі шмат якіх нашых беларускіх дзяўчат, увогуле адчувалі сябе невядома кім, што хацелі, то рабілі, пакуль нашыя хлопцы не набілі ім пару разоў морду.*

*Вось прыкладна з таго часу (1997) і пачала ствараціца моладзевая арганізацыя «КРАМ» (сёньня яна ўжо зарэгістравана), колькасьць сяброў якой складае больш за 20 чалавек (пераважна студэнтаў). «КРАМ» выдае моладзевую газэту «Золак» (выйшла 4 нумары), праводзім канцэрты, спартовыя спа-*

ПАЗЫТЫВЫ

# НА ТАБЛЕТКІ!..

Каб мы жылі ў радасьці, вырашыла начальства скараціць выдаткі на ўласнае ўтрыманьне. Маўляў, ня толькі ж народ для ўраду, але і ўрад для народу.

**Паводле зьвестак інфармацыйных агенцыяў, агульнае скарачэньне бюджэтных выдаткаў на ўтрыманьне органаў дзяржаўнага кіраваньня складзе 4 135 162 000 рублёў.**

Каб гэтыя грошы не марнаваліся, яны будуць пералічаныя ў адмысловы фонд і там зарэзэрваваныя «на дадатковыя пільныя патрэбы аховы здароўя».

Гэта правільна. Па-першае, у выніку разьвіцьця краіны няясным спосабам пільныя патрэбы аховы здароўя абавязкова ўзьнікнуць. Па-другое, сума ашчаджоных грошай падаецца вялізнай толькі на першы погляд. Бо калі добрасумленна падзяліць тыя грошы паміж грамадзянамі, то кожнаму дастанецца 1 рубель і 13 капеек на дзень. Але ж капеек у нас няма, і гультаі-грамадзяне могуць пабіцца, дзелячы грошы.

Зь іншага боку, сума падаецца малой, толькі калі яе падзяліць на ўсіх, з каго яе зьбіралі. У пераліку ж на аднаго чалавека сума падаецца не такою малою: у выніку зьбяднення чыноўніцтва ўсяго на 10%, асабісты Лукашэнкаў фонд, празь які будзе ісьці дапамога бальніцам, павялічыцца на 34%.

Добры набытак, у 12 разоў большы за выдаткі на падтрымку гаспадарак сялянаў-аднаасобнікаў. Ці то фэрмэраў, як іх клічуць нашыя правадыры, каб ня соромна сябе было зваць сэнатарамі ды губэрнатарамі.

Ніякавата робіцца, калі пільней прыглядзішся да гэтага атракцыёну нечуванай шчодрасьці. Бо ёсьць жа такія багатыя артыкулы бюджэту, не раўня гэным плянавым выдаткам на «дзяржаўнае кіраваньне і мясцовае самакіраваньне».

Гэта ж толькі першы са шматлікіх накірункаў бюджэтных выдаткаў. З пункту гледжаньня шараговага спажыўца паслуг раённай паліклінікі вельмі хочацца запазычыць на пільныя патрэбы аховы здароўя, напрыклад, з 12 мільярдаў рублёў, якім наканавана трапіць у бюджэт Саюзу Беларусі і Расеі, з аплаты за сяброўства, так бы мовіць.

Прывабна выглядаюць таксама выдаткі на нацыянальную абарону (69 мільярдаў), праваахоўную дзейнасьць і забесьпячэньне бясьпекі. Апошняе, праўда, лепей не чапаць, кажуць разумныя людзі. Бо 128 мільярдаў, на іх прызначаных, навет мала. БТР — ня трактар, ратвэйлер, навучаны людзей грызьці, — не калгасная карова, а лепшыя ў сьвеце бясьпекія спэцназаўцы... Гэта табе не калгасьнікі: не дасі колькі месяцаў зарплаты — парвуць, як мойву, і дэмакратычная грамадзкасьць не дапаможа.

З астатніх і брацць асабліва няма чаго. Але, той бяды, вернемся да нашых цікавых бюджэтных назіраньняў. Калі ўсе дадаткова пералічаныя ў рэзэрвовы фонд грошы пойдуць на ахову здароўя, дык яна пабагацее на 5%.

Гэта вельмі добра. Дзіўны толькі спосаб, у які клапатлівая дзяржава перадае грошы патрэбным людзям. Гэныя ж 4 135 162 000 рублёў спачатку руплівa зьбіралі падатковыя органы, потым пералічвалі адмысловцы з банкаўскіх і фінансавых структураў, правяралі кантралёры васьмёх гатункаў, прадстаўнікі ўсіх галінаў улады думалі, як іх размеркаваць... Прымалі-прымалі бясцэнныя Лукашэнкавы парлямэнтары бюджэт, і во на табе: пераразьмеркаваць.

Пабачыш усё гэтае ды падумаеш, якія цікавыя адносіны ўзьнікаюць у нашай краіне паміж грамадзянамі дзеля здабычы і разьмеркаваньня грошай на розныя патрэбы іхнай супольнасьці.

**Міхал Залескі**

# РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ: TO BE OR TO OBEY

Вясна — час буяньня пачуцьцяў, час адраджэньня згубленых надзеяў. Для выпускнікоў жа беларускіх вышэйшых ды сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў — гэта пэрыяд, калі радзіма згадвае пра тое, што яна палка кахае іхную беспэрспэктыўную будучыню, якую радзіма тая аж стогне — хоча зрабіць шчасьнейшаю. Лукашэнка надоечы сказаў, што ніводзін з маладых спэцыялістаў не застанецца бяз працы — маўляў, во як дзяржава клапоціцца пра цьвет нацыі. Ніхто, праўда, не спытаў у тых самых выпускнікоў, а ці хочуць яны тое працы.

Ясна, што агульнае нежаданьне ісьці па разьмеркаваньні (гучыць, як "па этапе") абумоўлена збольшага мізэрна малымі грашыма, якія плоціць дабрадзейная дзяржава бюджэтнікам. І калі мэдыку, прыкладам, амаль заўсёды можна падзарабіць "на леваку" ці «падарункамі», дык маладому пэдагогу — галоўнай ахвяры дзяржаўнага постВНУшнага тэрору — так і не давядзецца грызьці ўсе два гады нічога, акрамя граніту савецкай мэтодыкі ды дыдактыкі з надзіва таленавітымі (ад радыяцыі, мабыць) маргіналышамі. Няўцям местачковаму менскаму істэблішмэнту, што якасьць выкладаньня проста прапарцыянальная суме аплаты працы. І гэта датычыць, безумоўна, ня толькі настаўнікаў. Уцям, відаць, наступнае: тупой нацыяй лягчэй кіраваць.

Яшчэ адна важкая прычына — любоў да Менску. Няхай сабе "вялікая вёска", няхай сабе на ягоных спальніках ніяк ня лепш, чым на змрочных мікраraёнах Баранавічаў ці Воршы, але ж гэта сталіца, тут, нават працуючы на прызначаным месцы, можна тое-сёе падзарабіць. Дый піва тут сьвяжэйшае і смачнейшае. І мэтро ёсьць, і рэстарацыі, і ўсё такое. Таму выпадкі любові да былой радзімы сярод студэнтаў-неменчукоў нагэтулькі рэдкія, што амаль не ўплываюць на агульную тэндэнцыю ўцёкаў у стольны горад беларускі.

А яшчэ ёсьць дзікае азлабленьне, у першую чаргу, на самога сябе: якога алігахрэна трэ было дзяўбці тыя навукі, шалёна пісаць "шпоры" ды "бомбы" перад экзамэнамі, прасіцца ледзь не на каленях "Не выганяйце, я больш ня буду!", калі камісарам-разьмеркавальнікам да лямпачкі, які ў цябе сярэдні бал — 3,1 ці 5,0. Галоўнае для іх — тваё пэрыфэрыйнае паходжаньне.

Прапіска — вось што ратуе калі не ад разьмеркаваньня, дык ад засылу ў "зюзюкавічы". Вельмі, дарэчы, добрая нагода для высьвятленьня сваёй генэалёгіі па гарызанталі: мае аднакурсьнікі, хто не прыжаніўся, кінуліся шукаць сваякоў-менчукоў, абы-якіх, толькі б менш зьдзёрлі за прывілейны статус сталічнага жыхара. Бо кошты дзікія. Тут трэба разьдзяляць прапіску часовую ды сталую. Часовая нам не падыходзіць, бо разьмяркоўваюцца выпускнікі паводле сталага месца жыхарства (маецца на ўвазе хата тваіх бацькоў). Кошты ж на сталую вагаюцца ад 550 зялёных у самых міласэрных гандляроў індульгенцыямі да 1200 у самых сквапных патрыётаў гораду на Нямізе. Фокус з прыпіскай у якім заводзкім інтэрнаце цяпер можа прайсьці толькі з супэрлаханутай альбо хціваў загадчыцай самай выбітнай саўковай установы.

Можна легальна застацца працаваць у Менску і тады, калі ты маеш прапіску ў Менскім раёне. Там кошты ніжэйшыя: летась нейкая напаўпадпольная кантора пхала сталую прапіску ў Бараўлянах за 400—500 баксаў. Заглядвайце ў "из рук в ноги". Калі пашукаць, можна нарвацца і на што таньнейшае. Але тут спадзявацца варта толькі на халяву. Мой сябра з ангельскага факу паехаў на першым прыгарадным аўтобусе ў нейкую вёску з 200 далярамі ў кішэні: болей не было. Зайшоў у першую хату, другую... Гадзіны праз тры патрапіў да нейкай бабулі зь дзедам, якія "прасялілі ўнучыка" за сотку. І яшчэ дзялёнкі далі ўнагруз... Афармленьне прапіскі, што праўда, справа няскорая. Асабліва пільна адсочвае "ліміту" падаткавая паліцыя — "наложніца", як яе міла клічуць у народзе. Таму мецьˊ сваяка-менчука карысна і дзеля меншых фармальнасьцяў пры беганьні па пацучыных канцылярыях.

Яшчэ варыянт — прыжаніцца да мянчучкі (ці выскачыць замуж, што нашмат прасьцей). Канечне, долі прымака не пазайздросьціш, але...

Увогуле ж, пазалетась Канстытуцыйны суд прыняў пастанову, паводле якой абвяшчалася неправамоцнай дыскрымінацыя наймітаў па іхным штампіку на 22-й старонцы пашпарту. Аднак менская мэрыя разам з гарвыканкамамі абласных цэнтраў, што падтрымалі вэртыкальную ініцыятыву, не паддалася на правакацыю і выпусьціла "контру": дазвалялася працаваць у Менску толькі тым не-менчукам, якія рэальна і ў час могуць прыяжджаць на працу зь месца, дзе яны прапісаныя. Дзеля гэтага прадпрыемства-наймач мусіць пазавіхацца з дадатковымі хадайніцтвамі. Як чыноўнікамі вызначаецца магчымасьць своечасовага прыезду грамадзяніна на месца працы — праз сьледчы экспэрымэнт ці праз кіданьне банкноты (Лінкальн ці яго Мэмарыял) — для ўсіх застаецца загадкай.

Пры ўсім гэтым маладыя спэцыялісты два гады ня могуць быць нанятыя на працу, што не адпавядае іхнай спэцыяльнасьці. Таму ін'язаўцы, да прыкладу, маюць дадатковы шанец для адмазкі ад школы: відавочнай сувязі паміж працай настаўніка і даваным нам "філёлягам" няма. Яшчэ адна зачэпка ёсьць.

Менавіта на такіх прымітыўных зачэпках і будуецца зараз супрацьдзеяньне дзяржаве: мы вымушаныя адваёўваць свае правы літаральна па крыхах. Шмат што залежыць, як той казаў, ад пэрспэктыўнасьці прафэсіі. Калі на культмасработнікаў ды настаўнікаў асабліва не зважаюць, дык у "Бздуіры" (колішнім РТІ), паводле чутак, здаўна існуе практыка перакупу выпускнікоў, калі маладыя спэцыялісты, падпарадкоўваючыся замовам уладных структураў, едуць на патэнцыйнае месца працы, а пасьля элемэнтарна выкупаюцца "фірмачамі" (не абавязкова прыватнымі), застаючыся на вытворчасьці выключна фармальна, дзеля галачкі ды налічэньня той вельмі эфэмэрнай пэнсіі.

Я сяджу ў Менску і думаю, што ж мне рабіць: ехаць у грабаны Барысаў ці не. Дзяржава робіць так, што ў правінцыялаў большых пэрспэктываў няма. Калі ты, прабачце, калхозьнік, дык у гэты самы калхоз і мусіш ехаць.

Я малады чалавек. Я мог бы "зрыць" на Захад, але не хачу, бо там усё не па мне, там адны буржуі, там усё па спэцыфічных раскладах, мне не зразумелых. Але мне, паднявольнаму ін'язаўцу, цікава, што думае Лукашэнка пра тысячы дзяўчынаў, якія хапаюцца за любыя магчымасьці ўладкаваньня сваёй долі шлюбным шляхам: адсотак беларускіх прыгажуняў, што ахмураюць іншаземцаў, такі высокі, што ня пройдзе і дзясятку гадоў, як на вуліцах Беларусі мужыкі будуць толькі раздражнёна бурчэць і езьдзіць шукаць жонак у якую Расейшчыну. Калі цяпер маскоўскія ды менскія дзяўчыны яшчэ могуць паспаборнічаць у адной вагавай катэгорыі, дык у найбліжэйшай будучыні небясьпека для генафонду нацыі будзе сыходзіць не ад Чарнобылю, а ад браку маладых, слабых, прыгожых.

Толькі два выйсьці — ісьці або ня йсьці. Мая сяброўка з Рагачэву ("мэтавічка") "забіла" на разьмеркаваньне ды проста сядзела ўдома, ганяла балду. Праз тры месяцы прыйшла позва. Нахабны сьледчы "рэкамэндацельна" папрасіў напісаць тлумачальную, на што дзяўчына запатрабавала паказаць закон, які прымушаў бы яе даваць справаздачу адносна ейнага асабістага жыцьця. Гісторыя скончылася скандалам: дзеўчыне прыгразілі 15 суткамі ("Сьнег пачысьціш, як дзяцей ня хочаш вучыць!"), і яна панічна, на наступны дзень, зьехала ў Менск, дзе ўдала працуе сакратаркай і па сёньня.

Сярод іншых практычных установак магу адзначыць сыход у "акадэмку" ці простае адлічэньне на 5-м курсе: узнаўляючыся праз год на платнай аснове, вы пазбаўляецеся ад рызыкі быць разьмеркаванымі. А за час "акадэмкі" грошы на паўгоду платнага навучаньня можна элемэнтарна зарабіць.

Неблагім мэтадам зьяўляецца і другая вышэйшая адукацыя. Так, яна платная, але і тут самыя вялікія шахраі знаходзяць выйсьце: здаюць іспыты, прыносяць у школу паперку, што паступілі (адміністрацыя ня мае права замінаць прафэсійнаму ўдасканаленьню маладых кадраў), а ў самой ВНУ вучацца сэмэстар, да скрайняга тэрміну неаплаты за навучаньне. Цябе, ясна, пад Новы год адлічаць, але што з таго: разьмеркаваньня ты шчасьліва пазьбег.

Тэма неабсяжная, шмат і шляхоў змаганьня супраць галоўнага прыгнятальніка нашага часу ды народу — дзяржавы. Галоўная парада: будзьце арыгінальнымі. А тым-сім дапамагчы змогуць, напэўна, у ЗБСе: (017) 232-27-43. І, як казала мая выкладчыца правазнаўства, што даволі цесна зьвязаная зь "Імі": "Рабяты, Канстытуцыя за вас!"

**Анатоль Прасаловіч**

*борніцтвы, віктарыны. Акрамя «КРАМу» ў нас яшчэ ёсьць КХП БНФ, ТБМ, нядаўна стварыўся Малады Фронт. Так што з «трэцім сэктарам» у Коханава поўны О.К. А вось з уладамі... На ліку толькі аднаго «КРАМу»: прыезд КГБ з Воршы — адзін раз, выклік у раённую пракуратуру — адзін раз... Але гэта ўжо асобная гісторыя...*

*Дастойным нашай і вашай увагі ёсьць эфэктыўны сродак барацьбы з надпісамі на сьценах, які вынайшла наша ўлада. Усё вельмі проста і галоўнае — танна... 25 сакавіка мясцовыя патрыёты зрабілі графіці на сьцяне мясцовай крамы. На паўсьцяны лунаў Наш Сьцяг з надпісам унізе* «Belarus, zmahajsia!» *Графіці пратрымалася цэлыя пяць дзён. І тут пачынаецца самае цікавае. Старшыня пассавету (у нас гэта жанчына) тэлефануе ў краму і папярэджвае прадаўцоў, што, калі яны ня хочуць разьвітацца з працоўнымі месцамі, надпіс мае быць замаляваны. Ну, Вы ж ведаеце наш горды народ. Як вы думаеце, што яны зрабілі? Правільна. Скінуліся па тысячы рублёў, найнялі двух алкашоў, якія і замалявалі праявы супраціву «юных падпольшчыкаў».*

*Раю пашырыць коханаўскі досьвед на ўсю краіну. На чыім доме ці ўстанове напісалі нешта недазволенае, тых выганяйце з дому, і няхай замалёўваюць. Можна пад наглядам амону з бронетранспарцёрамі. А ня могуць, хай плацяць адкупнога.*

*А ў Коханаве 25 сакавіка невядомымі патрыётамі быў вывешаны яшчэ і сьцяг, нацягнуты на радыёдрот паміж двума пяціпавярховымі дамамі. Зьняты электраманцёрамі толькі апоўдні 3 красавіка.*

**Кастусь Зьмітрыевіч, Коханава**

## РНЕ па зубах

*У нашай школе пачалася прапаганда РНЕ. Усё больш хлопцаў, пачынаючы з 8-е да 11-е клясы пачалі насіць значкі з нацысцкай свастыкай, сталі ваўкавата глядзець на хлопцаў, якія размаўляюць па-беларуску.*

*Вось быў такі выпадак. Адзін хлопец нёс газэту «Верас» (напэўна, чытаў на перапынку), а на яго наляцелі РНЕўцы, пачалі яго біць, абражаць. Казалі, што як убачаць яшчэ раз у ягоных руках газэту «Верас», як пачуюць ад яго беларускае слова, дык яму зусім кепска будзе. Даведаўшыся пра гэта, мой сябра расказаў краёўцам пра гэтае здарэньне. Ужо дзён праз пяць тыя РНЕўцы сталі «мілыя», значкі са свастыкай кінулі насіць, прыгожа сталі апранацца (кашуля, пінжак і ўсё такое). Адным словам, падціснулі хвасты.*

*Не дамо нацыстам несьці сваю прапаганду! Не дамо прыніжаць і біць беларусаў!*

**С.П. (Rambol), Віцебск**

## Што параіць Малады Фронт?

*Дзіўны дакумэнт атрымалі нядаўна школы Барысаўскага раёну. Барысаўская раённая арганізацыя БПСМ рэкамэндуе кіраўнікам школ правесьці акцыю «Моладзь супраць злачыннасьці» і віктарыны па гэтай тэматыцы, а таксама конкурс плякатаў і насьценгазэтаў «Моладзь за здаровы лад жыцьця». Вядома ж, з злачыннасьцю трэба змагацца. Хоць віктарынамі, лекцыямі, дыскатэкамі. Дый здаровы лад жыцьця добрая штука. Спадзяюся, што ў БПСМ ён заведзены. Адно што пытаньні некаторыя паўстаюць. Ці можа грамадзкая арганізацыя даваць указаньні (хай сабе й «рэкамэндацыі») дзяржаўным установам? Чаму хлопчыкі ды дзяўчаткі з барысаўскага БПСМу не паедуць самі ў раён ды не зоймуцца выхаваньнем здаровага ладу жыцьця? Ды яшчэ: а што рабіць кіраўнікам школ, калі «рэкамэндацыі» будзе дасылаць ня толькі БПСМ, але й, напрыклад, ЛКСМБ, Маладая Грамада і Малады Фронт?*

**Зьміцер Бярэзін, Барысаў**


Фота IREX-ProMedia

спорт

# БТ І БТРЫ

Ну, што нам усім рабіць? Ну, няма ў нашай тэлевізіі грошай на нармальную працу. На адзінаццаць выхадаў АТН штодня грошы ёсьць, а на спорт няма. Дзяржава ў асобе свайго шэфа любіць хакей, але яшчэ больш любіць палохаць народ БТРамі. Таму на вайсковыя вучэньні ў Менску грошай не бракуе, а на трансьляцыю чэмпіянату сьвету з Санкт-Пецярбургу не стае. Вось і прыходзіцца тэлевізійшчыкам запускаць у эфір новы рэклямны ролік: «Падайце, калі ласка, каго шчэ не дадушылі, можа пацешымся за нашых...» Або спадзявацца, што ў «засеках бацькі» нешта засталося, і ён у апошні момант шчодрай рукою падзеліцца.

А тут яшчэ й футбол зьнянацку пачаўся. У першым туры дуэль монстраў «Белшына»—БАТЭ, круты матч у Берасьці «Дынама»— «Славія», але нічога гэтага мы ня бачым. На бабруйскім стадыёне нейкія праблемы, а Берасьце так далёка, што БТшнікам ехаць туды задорага. А сваёй перасоўнай тэлестудыі там няма. Вось і паказваюць гульні ў Менску, нейкія «Тарпеда»— «Лякаматыў», і яшчэ дзякуй Богу, што ўвогуле нешта паказваюць.

Тое ж з Алімпіядай. Проста дзіва, што нам хоць нешта пакажуць: адкрыцьцё-закрыцьцё ды фіналы па барацьбе й гімнастыцы. Можа й на веславаньне наскрабуць. Праўда, баюся, з-за таго ня ўбачым ня тое што тэніснага матчу на Кубак Дэвіса з Швайцарыі, але й футбольнага адборачнага матчу чэмпіянату сьвету з Польшчы.

А самае цікавае, што ў тэлебачаньня й не павінны быць грошы на паказ спаборніцтваў. Дакладней, грошы мусяць быць, але ўсе папулярныя трансьляцыі мелі б аплочваць фундатары за рэкляму! Але гэта не пра нас. У нас няма фундатараў, у нас ёсьць вашывыя блохі, спэкулянты й перакупшчыкі. У нас жа калі ў каго баксы ёсьць, ён нікому пра гэта ня скажа. Інакш спачатку ягоныя ролікі пракруцяць, а потым самога падаткавымі інспэкцыямі — у бараноў рог. «Дзякуй, бусьлік, але адкуль у цябе грошы?!» Так што фінансаў для БТ можа падкінуць толькі адна фірма — таварыства зь неабмежаванай безадказнасьцю ў Чырвоным доме. Калі ад БТРаў застануцца.

Таму глядзецьмем мэгасэрыялы «Выступ правадыра ў Палаце» ды «Сэлектарная нарада». З дубляваньнем на радыё. Рэкляму на такія мыльныя опэры ня знойдзеш, затое яны й выдаткаў не патрабуюць. Два-тры апэратары ды чалавек за пультам — і палова эфірнага дня поўная. А ў вольны час можна паправіць рэклямныя застаўкі для расейскіх каналаў на просьбу нейкага віцэ-прэм'ера. Замест «рэкляма ў Беларусі» — «реклама в Белоруссии». Што ўжо й робяць на НТВ.

**Арцём Лук'яновіч**

дзе варта быць

## Вялікдзень

Каталікі, уніяты і пратэстанты Беларусі ў наступную нядзелю сьвяткуюць Уваскрасеньне Хрыстова. Усяночная служба для беларусаў-каталікоў усходняга абраду (уніятаў) пачнецца 23 красавіка апоўначы, як звычайна, у касьцёле Сьвятога Роха (на Залатой Горцы). Асьвячэньне пасак пад раніцу.

## Унія

Мужчынскі камэрны хор «Унія» сьпяваў велікодную музыку 15 красавіка а 18:00 у касьцёле Сьв.Сымона і Алены. А 23-га кіраўнік «Уніі» Кірыла Насаеў правіць велікодны канцэрт ужо зь іншым хорам — Менскай музвучэльні імя Глінкі. Цьвік канцэрту — прэм'ера Манюшкавай «Вастрабрамскай літаніі». Месца і час — тыя самыя.

## Жывёлы ля мікрафону

Не, гэта ня новы цыркавы нумар — проста ў Менск прыяжджае ангельскі гурт *The Animals*, па-наску — «жывёлы». У анонсе канцэрту з патасам паведамляецца, што *The Animals* — сусьветная легенда і клясыка брытанскай рок-музыкі. Выступае гурт у «каралеўскім» складзе: Джон Стыл, Гілтан Валентайн, Дэйв Роўбэры, Джым Родфард ды Тоні Лідл. 20 красавіка а 19-й у залі «Менск» музыкі абацаюць пацешыць беларускіх фэнаў «гітом усіх часоў і народаў» пад назвай «Дом сьвітальнага сонца» ды іншымі песенькамі. Квіткі нятанныя — ад 7 да 50 тысячаў.

## Рэп-фэст

У суботу 22 красавіка ў сталіцы адбудзецца першы рэп-фэстываль. Лепшай рэп-камандзе 1999 году ўручаць прэмію *Beat Sound*. Госьці фэстывалю — рэп-гурт з Украіны "Забітыя рэпам". Дэлегавала яго ўкраінская гіп-гоп-асацыяцыя. Фэст пачнецца а 18-й у клюбе "Менск" (пр.Скарыны 84/1). Цэны на квіткі: папярэдне — 2300, у дзень фэстывалю з флаерам — 2800, безь яго — 3300.

## Палякі на вайне

Вайна ў Босьніі сьціхла зусім нядаўна, а палякі ўжо зьнялі пра яе фільм. "Дэманы вайны" — стужка рэжысэра Ўладыслава Пасікоўскага (1998). Зьвяз польскіх міратворцаў на чале з маёрам Келерам накіраваны ў Босьнію. Загад: ніякіх узброеных умяшальніцтваў. Але калі на небясьпечнай тэрыторыі, кантраляванай бандай Скіджа, робіць аварыйную пасадку самалёт з польскімі жаўнерамі, Келер са сваёй камандай ідзе на падмогу. 17 красавіка, 18.30, аўд.571 Белдзяржпэдунівэрсытэту. Уваход вольны. Прадстаўляе фільм Максім Жбанкоў.

## Творца і ўлада



Якія дачыненьні маюць творцы ўлады і ўладары над творчасьцю? 18 красавіка ў Беларускім калегіюме на гэты конт разважае паэт Леанід Галубовіч, які толькі што даў зарок болей не пісаць вершаў. У 18.30 — лекцыя "Творца і ўлада". Заля бібліятэкі імя Янкі Купалы.

## Турнэ Народнага Альбому

"Народны альбом" быў прадстаўлены ва Ўкраіне, на Міжнародным тэатральным фэстывалі "Містэцкэ бэрэзільля" ў Кіеве. Цяпер музыкі рыхтуюцца да турнэ ў Беларусі. Да канца красавіка "Народны альбом" маюць пачуць у Гомелі (23 красавіка), Магілёве (22 красавіка), Горадні і Віцебску.

**Алесь Кудрыцкі**







14 красавіка адкрылася выстава **«Адраджэньне-2000»** творчай суполкі «Пагоня» Беларускага Саюзу Мастакоў. Выстава прысьвечаная 82-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі і працягнецца да 25 красавіка.

*Ласкава запрашаем: Нацыянальная мастацкая галерэя «Палац Мастацтва» (Менск, вул. Казлова 3).*

# ФУХІМОР

*Працяг са старонкі 1.*

Альбэрта Фухіморы ўжо 62 гады: ён нарадзіўся ў Ліме, у сям'і японскіх эмігрантаў, якія жылі зь нядрэннай штогадовай рэнты (ягонае прозьвішча па-японску азначае «лясная гара»). Трэба, увогуле, адзначыць, што японцаў у Пэру — каля 70 тысячаў (0,3% насельніцтва краіны), і яны, побач з крэоламі, валодаюць большай часткай багацьцяў дзяржавы. Адукацыю Фухіморы атрымаў на матэматычным факультэце Ўісконсынскага ўнівэрсытэту, а па вяртаньні на радзіму стаўся спачатку прафэсарам аграноміі ў Нацыянальным Аграрным Унівэрсытэце Пэру, а пасьля ўзяў гэтую ВНУ пад сваё крыло: былы ейным рэктарам ад 1984 да 1989 году, Фухіморы адначасова кіраваў і Асацыяцыяй Рэктараў Пэру.

Ва ўсім сьвеце аграномы маюць вялікую прагу да палітыкі. Вось і Фухіморы ў 1988 стварае левацэнтрысцкі рух "Cambio-90" ("Зьмены-90") — на 1990 год былі прызначаныя прэзыдэнцкія выбары. На той час левыя ды цэнтрысты былі ў вялікім разладзе, ні адзін зь лідэраў не жадаў саступаць месца іншым кандыдатам, і таму на выбарах іх чакала параза. Ажно некаму раптам прыйшла ў галаву цудоўная ідэя вылучыць ды падтрымаць раней нікому асабліва не вядомага Альбэрта Фухіморы. Разьлік быў трапны: народ стаміўся ад 5 гадоў дэмакратыі ды традыцыйных палітыкаў, якія ніколі не выконвалі даваных абяцаньняў і трывалі буяньне карупцыі. Пэруанцы атрымалі ад невялічкага японца тое, чаго чакалі, — просьценькую неакрэсьленую праграму бяз пэўнай ідэалёгіі, дзе ключавымі словамі былі Праца, Сумленнасьць і Новыя Тэхналёгіі.

Выбары прайшлі ў два туры: у першым Фухіморы набраў 27% галасоў — на 3% меней, чым вядомы навэліст Варгас Льёса, кандыдат ад правых. У другім туры за японца прагаласавала ўсё беднае насельніцтва, якое не давярала купленаму (як казалі) алігархамі пісьменьніку. У выніку Фухіморы атрымаў 60% — самую адчувальную большасьць на выбарах за ўсю гісторыю краіны.

Перад новым прэзыдэнтам сталі дзьве асноўныя задачы: вывесьці Пэру з жудаснага эканамічнага крызысу ды расьцісnуць "герыльлю" — рух узброенага супраціву індзейцаў, сярод якіх вядучай сілай была мааісцкая *Sendero Luminoso* ("Сьветлы Шлях"), што дзейнічала ў гарах. Набіраў моцы і MRTA — Рэвалюцыйны Рух Тупак Амару, названы так у гонар лідэра самага буйнога паўстаньня індзейцаў супраць гішпанскіх акупантаў.

Карыстаючыся сваім паходжаньнем, Фухіморы робіць стаўку на ўсталяваньне найцясьнейшых эканамічных стасункаў зь Японіяй. Дзякуючы заакіянскаму капіталу яму насамрэч удалося спыніць гіпэрінфляцыю пэса, але ня болей: зьлеглая эканоміка Пэру не змагла нават прыўзьняцца з каленяў. Палітыка на ўзор "рэйганомікі", якая ў Лацінскай Амэрыцы атрымала назву "фухімарызацыя", прывяла да ўзмацненьня партызанскай барацьбы левых радыкалаў. Фухіморы, ня будзь дурны, скарыстаўся і з гэтага: у красавіку 92-га ён, пры непасрэднай падтрымцы ваякаў, арганізаваў "цывільны" путч, распусьціўшы кангрэс, увёўшы жорсткую цэнзуру ў мас-мэдыях ды арыштаваўшы найбольш небясьпечных палітычных апанэнтаў. Матывам для гэткага "самапераваротy" стала эвэнтуальнае тармажэньне заканадаўчай ды судовай уладамі прэзыдэнцкіх ініцыятываў па мадэрнізацыі эканомікі краіны,



барацьбе супраць тэрарыстаў з *Sendero Luminoso*, наркабізнэсу ды карупцыянэраў. Слушнасьць такога кроку Фухіморы давёў праз паўгады, арыштаваўшы ў верасьні мааісцкага лідэра Абімаэля Гусмана і дзевяць ягоных найбліжэйшых паплечнікаў, якія атрымалі пажыцьцёвае зьняволеньне. Пасьля гэтага ўдару *Sendero* фактычна перастала лічыцца сур'ёзнай сілай, каля 6000 байцоў здаліся ўладам, скарыстаўшыся амністыяй, а ўнутры самой групоўкі адбыўся канчатковы раскол з тае прычыны, што Гусман з турмы заклікаў сваіх прыхільнікаў скласьці зброю ды перайсьці да палітычнай барацьбы.

Пасьля няўдалай спробы дзяржаўнага перавароту ў лістападзе 1992 г. адбыліся выбары ў новы марыянэткавы аднапалатны кангрэс. Прынесла плён жорсткая манэтарная палітыка: у 1993 годзе Пэру здолела вярнуць замежным крэдыторам браныя некалі пазыкі.

## Сябра свайго народу, вораг роднай жонкі

Адчуваючы сваю папулярнасьць, Фухіморы ідзе на традыцыйны аўтарытарны крок — рэфэрэндум. 31 кастрычніка абсалютная большасьць насельніцтва Пэру надзяліла народнага абранніка неабсяжнымі паўнамоцтвамі, падтрымала ідэю аднапалатнага парлямэнту і дала Фухіморы права балятавацца яшчэ на два тэрміны. Было яшчэ адно ўвязаньне: сваякам прэзыдэнта забаранялася ўдзельнічаць у выбарчых кампаніях ды крытыкаваць курс кіраўніка дзяржавы, што было абумоўлена адыходам у апазыцыю жонкі Сусаны Хігучы. Пазьней яны разыдуцца, а ў жніўні 94-га ён афіцыйна пазбавіць яе тытулу Першай Ледзі краіны. Хігучы стварае Партыю Згоды, якая вылучае яе кандыдаткай на прэзыдэнцкі пост. Аднак Сусане адмовілі ў рэгістрацыі з прычыны нібыта недастатковай колькасьці назьбіраных подпісаў у ейную падтрымку. У роспачы жанчына ідзе на скрайні крок — у студзені 95-га пачынае галадоўку. Неўзабаве яе, непрытомную, забяруць у рэанімацыю.

1994 год стаўся для Пэру пэрыядам масавай прыватызацыі, пад якую падпалі найбуйнейшы дзяржаўны "Інтэрбанк" ды нацыянальная тэлефонная кампанія, што абумовіла паніжэньне фухіморыўскага рэйтынгу. Апазыцыя выкарыстала гэты момант для ўзмацненьня антырэжымнай прапаганды, плюсам для яе стала вылучэньне агульнага кандыдата — Хаўера Пэрэса дэ Куэльяра, былога генэральнага сакратара ААН. У такой сытуацыі Альбэрта Фухіморы, безумоўна, ня мог не вярнуцца да сваёй тактыкі заваёвы галасоў: ён ізноў разгортвае крывавую антытэрарыстычную кампанію, у выніку якой *Sendero Luminoso* быў практычна пазбаўлены кіраўніцтва, сотні баевікоў былі забітыя. Яшчэ адной нагодай для дэманстрацыі сваёй "прынцыповай непахіснасьці" стаўся для Фухіморы памежны канфлікт паміж Пэру ды Эквадорам, у якім прэзыдэнт выступіў рэзка супраць падпісаньня ўсялякіх мірных пагадненьняў зь дзяржавай-суседкай. Папулярнасьць японца ў народзе рэзка падскочыла. Таму, нягледзячы на тое, што перадвыбарчая кампанія апазыцыі мела акцэнтам парушэньне правоў чалавека рэжымам Фухіморы, *hombre fuerte* ня даў дыплямату дэ Куэльяру ўзьлезьці на прэзыдэнцкае крэсла: у красавіку 1995 г. за андыйскага Напалеона зноў прагаласавалі 60% выбарцаў.

## Нагамі па трупах

Першым актам новага старога прэзыдэнта стала абвяшчаньне амністыі, пад якую падпалі вайскоўцы ды жандары, вінаватыя ў масавых рэпрэсіях пад час дыктатуры 1980—85 гг. Рашэньне было прынята ў абыход парлямэнту, без усялякага абмеркаваньня з насельніцтвам. Такая мера выклікала асуджэньне рэжыму за межамі краіны. Адказам на палітыку Фухіморы быў рост партызанскай барацьбы: адроджаны *Sendero* захапіў некалькі правінцыйных цэнтраў, цэлы шэраг складоў са зброяй, зьнішчыў некалькі вайсковых ды паліцэйскіх фармаваньняў. Раздражнёны прэзыдэнт пайшоў на палітычны тэрор: усе сябры тэрарыстычных арганізацыяў, што некалі здаліся на ласку добрай дзяржаве, атрымлівалі пажыцьцёвае зьняволеньне ў тым выпадку, калі суд даводзіў іх прычыннасьць да вайсковых апэрацыяў.

Зь цягам часу "Сьветлы Шлях" згубіў сваю папулярнасьць сярод унівэрсытэцкай моладзі, якая пачала масава падтрымліваць MRTA. «Тупак Амару» акрыяла пасьля пачатку індзейскага паўстаньня ў мэксыканскім Чыяпасе. Галоўным сродкам супрацьдзеяньня рэжыму "тупакамарасы" абралі гарадзкі тэрарызм. У лістападзе 1995 году пэруанскія ўлады арыштавалі 23 чалавекі, абвінавачаных у прыналежнасьці да MRTA, найбліжшым плянам якіх нібыта быў захоп пэруанскага Нацыянальнага Кангрэсу. Сярод затрыманых было некалькі грамадзянаў Злучаных Штатаў. Закрыты працэс над імі адбыўся вельмі хутка: адвакатам падсудных не дазволілі праводзіць перакрыжаваны допыт сьведкаў, якія, у сваю чаргу, рэпрэзэнтавалі толькі абвінаваўчы бок. Большасьць з арыштаваных атрымалі пажыцьцёвы тэрмін. Пасьля гэтага стасункі Пэру з дэмакратычным замежжам на доўгі час сталі халоднымі.

У сьнежні 1996 году група байцоў MRTA, кіруючыся лёзунгам "На кожную акцыю — рэакцыя!", захапіла амбасаду Японіі ў Ліме, сталіцы Пэру, а разам зь ёю — 90 закладнікаў. Група тэрарыстаў складалася з 14 чалавек, 8 хлапцоў і 6 дзяўчынаў. На чале стаяў Нэстар Сэрпа Карталіні, які хутка ператварыўся ў канкурэнта Камандантэ Маркаса ў праве называцца рэінкарнацыяй Чэ Гевары. Патрабаваньні рэвалюцыянэраў былі простымі: вызваліць з турмы несправядліва засуджаных палітвязьняў, палегчыць умовы ўтрыманьня тым, чыя віна была даведзеная (многія паміралі ў турмах ад голаду, смагі ды зьдзекаў наглядчыкаў), спыніць дзяржаўны тэрарызм і палітыку бясьсьледнага "зьнікненьня" людзей. Байцы MRTA пратрымаліся чатыры месяцы, да красавіка 97-га. Калі спачатку міжнародная супольнасьць стала на баку Фухіморы, дык пазьней, зважаючы на цывілізаванае стаўленьне да закладнікаў ды праўду аб рэжыме Фухіморы, што была распаўсюджаная сродкамі масавай інфармацыі на ўвесь сьвет, група тэрарыстаў набыла пэўны рамантычны арэол ня толькі ў вачах лявацкай моладзі. У красавіку Фухіморы загадаў атакаваць амбасаду. У выніку ўсе 14 баевікоў былі расстраляныя, былі параненыя і некалькі закладнікаў, многія зь якіх ставалі ў абарону сваіх "мучыцеляў". Нейкаму апэратару ўдалося прарвацца ў захоплены будынак і зьняць на камэру сцэны жудасных зьдзекаў з трупаў. Апатэозам рэжыму сталіся кадры з самім Фухіморы: задаволены дыктатар-карантыш гідліва ставіць сваю нагу на труп аднаго з забітых. Паводле непацьверджаных зьвестак, лідэру тэрарыстаў Нэстару Карталіні мёртваму адсеклі галаву.

Менавіта тады "фухімарызацыя" замацавалася ў міжнародным лексыконе як сынонім бесчалавечага нэалібэралізму. Менавіта пасьля гэтага ў рэпэртуары ці ня кожнага музычнага гурту зь левым ухілам зьявілася песьня, прысьвечаная пэруанскаму спадкаемцу Пінача́та. Тэксты песень вар'іюць ад "Фухіморы — казёл" да *Memento mori, Fujimori!* I менавіта пасьля крывавага зьнішчэньня "тупакамарасаў" у Беларусі зьявілася дыпляматычнае прадстаўніцтва Рэспублікі Пэру.



## Лепшыя й горшыя

У Вільні ёсьць цяпер 600 вуліцаў ды 10 пляцаў. Старасты раёнаў прапанавалі вылучыць зь іх лепшых 31. Іх і будуць лічыць рэпрэзэнтацыйнымі. Магістрат прапануе свой сьпіс. У ім, натуральна, пазначаны праспэкт Гедыміна, вуліцы Віленская, Нямецкая, Ягайлы, Замкавая, Бэрнардынскі сад ды іншыя. І гэта ня проста забаўка. Як кажа старшыня Задзіночаньня Ўладальнікаў Кіёскаў, Робэрт Мачуліс, падзел вуліцаў на галоўныя й другасныя задуманы з мэтаю разрозьніць падаткі на гандаль. Зараз уладальнікі шапікаў у цэнтры горада плоцяць у месяц 6 даляраў за квадратны мэтар, а на ўскрайку — па 3 даляры.

## Разам?

На мінулым тыдні ў Рыме адбылася чарговае пасяджэньне ICCROM — арганізацыі ўдасканаленьня рэстаўрацыі й апекі культурнай спадчынай сьвету. Гэтая арганізацыя была створаная UNESCO ў 1956 годзе. А зараз у яе ўвайшлі й былыя савецкія рэспублікі. Пад патранажам гэтае арганізацыі распачалася міжнародная рэгіянальная праграма «Суцэльнная гарадзкая краёвая ахова помнікаў». Да ўдзелу ў ёй запрошаныя Літва, Беларусь, Латвія, Эстонія й Украіна. Як частка гэтае праграмы, у Вільні адбыліся два буйныя міжнародныя сэмінары «Будаўніцтва ў гістарычным асяродзьдзі» ды «Асяродак для інвэстыцыяў у Старым Месьце». Гэтыя простыя першыя крокі значна паскорылі даўнія працы па далучэньні да сьпісу помнікаў дадатковых аб'ектаў нашае старасьвеччыны. У Вільні.

## Нераскрытая таямніца

На мінулым тыдні, у часе жалобы па забітых у Катыні пад Смаленскам афіцэраў ды жаўнераў польскага войска, у віленскім друку зьявілася сэнсацыйнае паведамленьне. Аказваецца, у 70-я адзін з тых польскіх вэтэранаў, які ўнікнуў крывавае савецкае расправы, журналіст Язэп Мацкевіч, перадаў у Дзяржаўны Гістарычны Архіў Літоўскае ССР некалькі валізаў дакумэнтаў. Там былі апошнія перадсьмяротныя лісты, здымкі, нават гузікі й скрываўленыя шматкі адзежы. Праз колькі часу гэтым фондам зацікавілася КГБ. І неўзабаве ён зьнік. Сьведкі кажуць, што недзе гэтыя рэчы з архіву мусяць быць і дасёньня...

Язэп Мацкевіч, па ўцёках з савецкага палону, вярнуўся ў Вільню ў 1941 годзе. Ён ізноў стаў журналістам. 11 красавіка 1943 году, ён, разам з калегамі зь іншых краінаў, быў сьведкам раскрыцьця магілаў сваіх вайсковых таварышаў. А ў траўні таго году ў газэце *Gonec Codzienny* зьявілася першая публікацыя пра жудасны скон палонных польскіх вайскоўцаў, закатаваных і пазабіваных савецкімі «органамі». Большасьць з тых ахвяраў былі родам зь Беларусі. Аўтар тае публікацыі Язэп Мацкевіч і прывёз у Вільню ўнікальны архіў і рэліквіі, каб нейкім чынам пасьля перадаць іх сваякам забітых. Ні за Гітлера, ні за Сталіна гэта было немагчыма. Зараз ізноў распачаліся пошукі таго фонду, зьвезенага кагэбэшнікамі. Мо дзе б у Беларусі пашукалі.

**Віленскі**

## Фухіморы і РБ

Так, з усіх лацінаамэрыканскіх краінаў мы падтрымліваем дзейсныя дыпляматычныя стасункі з самымі выбітнымі — Пэру ды Кубай. Прычым сувязі не абмяжоўваюцца чыста фармальным абменам нотамі: адным з прыкладаў канструктыўнага супрацоўніцтва зьяўляецца падрыхтоўка беларускімі спэцыялістамі пэруанскіх вайсковых лётчыкаў. Ёсьць чаму павучыцца і беларусам у пэруанцаў...

А самым цікавым пасажам стаўся факт здымак фільму пра захоп "тупакамарасамі" закладнікаў — дзе бы вы думалі? Канечне, у Менску! Мае сябры лацінасы ды некаторыя беларусы-брунэты добра зарабілі ў амэрыканскага рэжысэра Мэнахема Голема ды ўволю наседзеліся на Валадарцы, дзе праходзіла частка здымак. Адзін мой знаёмы ледзь не звар'яцеў, выйшаўшы з бадуна на вуліцу 1 красавіка 1998 году, калі здымалася стужка, і ўбачыўшы на праспэкце Скарыны машыну быццам бы беларускай міліцыі зь вялізным лэйблам: "Policía de Perú". Жарты жартамі, але сам факт правядзеньня кіношнай паралелі паміж Беларусьсю і той андыйскай краінай вельмі сымбалічны...

Рабочая назва фільму была *Broken The Silence* — "Разьдзершы цішыню". У пракаце ён пайшоў як "Ліма: парваўшы кайданы".

А Фухіморы, як лічаць аналітыкі, у другім туры ўсё-ткі пераможа. Яшчэ на пяць гадоў. І нешта шчымліва знаёмае ёсьць у ягоным нясьпешным, спружыністым кроку "моцнага японца".

**Анатоль Прасаловіч**

# ХТО ВЕРНЕ НАШАЕ ЗОЛАТА?

У свой час, калі я быў дэпутатам Вярхоўнага Савету XII скліканьня, я зацікавіўся лёсам тых каштоўнасьцяў з золата і срэбра ды іншых каштоўных мэталаў, якія з тэрыторыі БССР вывозіліся ў Маскву. Спачатку я зрабіў афіцыйны запыт у Дзяржаўнае сховішча каштоўнасьцяў (Дзяржсхоў СССР) пры Міністэрстве Фінансаў СССР і атрымаў адтуль 9 чэрвеня 1991 году афіцыйны адказ пра знаходжаньне там двух унікальных скарбаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі.

Самы знакаміты зь іх — гэта Бялыніцкі скарб, знойдзены ў 1977 годзе, які складаўся з 225 залатых манэт розных эўрапейскіх краін XVI—XVII ст. Другі скарб налічваў ажно 630 залатых (царскіх) манэт сярэдзіны XV ст., які быў знойдзены ў Глыбокім на Віцебшчыне ў 1987 годзе.

У адпаведнасьці зь міжнароднымі законамі аб рэстытуцыі каштоўнасьцяў мы маем поўнае права патрабаваць ад Расеі вяртаньня гэтых скарбаў, асабліва Бялыніцкага.

Крыху пазьней, 29 кастрычніка 1991 г., я атрымаў зь Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі падрабязны сьпіс скарбаў манэт і ювэлірных вырабаў, якія МУС з 1964 па 1991 г. накіроўваў у «Гохран СССР». За гэтыя часы беларускія каштоўнасьці вывозіліся ў Маскву 36 разоў, прычым колькасьць вывезеных знаходак склала 2088,5 адзінак. Цікава, што ў гэтым сьпісе няма скарбаў зь Бялынічаў і Глыбокага. Значыць, вывозілі нашае золата ў Расею ня толькі прадстаўнікі МУС БССР, але і іншыя міністэрствы і ведамствы.

Вялікую цікавасьць для нумізматаў будзе мець і даведка пра кошт вывезеных у Маскву знаходак, які склаў агулам 337 071 тагачасных савецкіх рублёў.

Пасьля маіх зваротаў Саўмін Беларусі прыняў 16 верасьня 1991 году рашэньне аб перадачы найбольш каштоўных знаходак на захаваньне ў нацыянальны Банк Беларусі. Апошнія 29 залатых манэт паехалі ў Маскву 18 лютага 1991 году.

Такім чынам, вываз нашых каштоўнасьцяў у «братнюю» Расею спыніўся, аднак я невыпадкова пішу гэтыя радкі 2 красавіка 2000 году. Дзе гарантыя, што рабаваньне нашых скарбаў пасьля чарговай «інтэграцыі» не паўторыцца? І калі да ўлады ў Беларусі прыйдуць тыя палітыкі, якія пачнуць вяртаць на Радзіму нашыя гістарычныя і культурныя каштоўнасьці?

Магчыма, што ім спатрэбіцца гэтая публікацыя.

**Алег Трусаў,**
**кандыдат гістарычных навук**

*БССР*
*Міністэрства ўнутраных справаў*
*Намесьніку старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь*
*таварышу Трусаву А.А.*

29 кастрычніка 1991 г. №3/225

Накіроўваем зьвесткі аб перададзеных у Дзяржсхоў СССР скарбах манэт і ювэлірных вырабаў з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь за пэрыяд з 29.09.1964 г. па цяперашні час.

Дадатак: на 3-х аркушах.

*Намесьнік міністра Б.І.Матусевіч*

СЬПІС
скарбаў манэт і ювэлірных вырабаў, накіраваных у Дзяржаўнае сховішча СССР па Міністэрстве ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь за пэрыяд з 29.09.1964 г. па сёньня

| п | Назва падразьдзяленьня | Назва каштоўнасьцяў | Колькасьць (адзінак) | Вага (г) | Нумар і дата накіраваньня ў (адзінак) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | УУС Менгарвыканкаму | залатыя манэты царскага біцьця | 49 | 414,0 | мг/1-708 ад 04.11.66 г. |
| 2 | – | – | 11 | 90,2 | мг/1-13 ад 14.01.69 г. |
| 3 | – | – | 140,5 | 601,6 | мг/1-1150 ад 16.12.69 г. |
| 4 | – | – | 10 | 68,6 | мг/38-923 ад 20.12.69 г. |
| 5 | – | – | 8 | 63,2 | мг/38-312 ад 16.05.85 г. |
| 6 | – | адліўкі золата | 3 | 3827,8 | мг/38/692 ад 09.10.86 г. |
| 7 | УУС Менаблвыканкаму | – | 2 | 42,75 | №14/562 ад 16.05.77 г. |
| 8 | – | залатыя манэты царскага біцьця | 6 | 5,03 | 14/622 ад 16.05.77 г. |
| 9 | – | – | 284 | 1 кг638,57 | №454/43 ад 04.11.85 г. |
| 10 | – | – | 59 | 436,15 | №14/277 ад 31.05.89 г. |
| 11 | УУС Магілёўскага аблвыканкаму | манэты залатыя дарэвалюцыйнага біцьця | 64 | 34,2 | №13/244 ад 23.09.82 г. |
| 12 | – | – | 13 | 68,5 | №13/194 ад 26.06.84 г. |
| 13 | – | – | 29 | 124,2 | №13/145 ад 18.02.91 г. |
| 14 | – | срэбныя манэты | 33 | 920,0 | №491 ад 12.01.86 г. |
| 15 | УУС Берасьцейскага аблвыканкаму | залатыя манэты | 15 | 168,77 | акт 5/2253 ад 29.09.64 г. |
| 16 | – | срэбныя манэты | 124 | 1340,0 | акт № 5/2253 ад 29.09.64 г. |
| 17 | – | залатая манэта дарэвалюцыйнага пэрыяду | 1 | 351,05 | акт 1/1217 ад 28.06.79 г. |
| 18 | – | залатыя амэрыканскія даляры | — | 601,65 | — |
| 19 | – | залатыя манэты царскага біцьця 900 пробы | 10 | 60,06 | акт № 5/1080 ад 04.10.79 г. |
| 20 | – | – | 10 | 98,69 | акт №1/897 ад 18.05.87 г. |
| 21 | – | дыямэнты | 27 | 4,32 кар. | акт №1/964 ад 04.06.87 г. |
| 22 | – | манэты залатыя царскага біцьця | 8 | 103,05 | акт № 16/164 ад 19.06.88 г. |
| 23 | | манэты залатыя царскага біцьця варт. 15 руб | 1 | 12,9 | акт № 16/308 ад 01.12.89 г. |
| 24 | УУС Віцебскага аблвыканкаму | залатыя манэты варт. 5, 10 руб | 150 | 835,1 | акт №1/1590-1973 г. вед. 1 |
| 25 | – | — | 15 | 207,35 | акт №1/399-1975 г. вед.35 |
| 26 | – | срэбныя манэты | 129 | 1310,4 | — |
| 27 | – | залатыя манэты | 133 | 801,25 | акт №3/1682 ад 17.09.82 г. |
| 28 | УУС Гарадзенскага аблвыканкаму | пярсьцёнкі з плятыны | 116 | 1386,85 | вых. №545 ад 11.09.66 г. |
| 29 | – | залатыя манэты царскага біцьця | 44 | 340,5 | № 1623 ад 07.06.71 г. |
| 30 | – | – | 68 | вага адсутн. | №837 ад 21.03.72 г. |
| 31 | – | – | 52 | — | №2898 ад 30.09.71 г. |
| 32 | – | амэрыканскія манэты жоўтага мэталу | 15 | 349,83 | — |
| 33 | – | залатыя манэты царскага біцьця | 385 | вага адсутн. | № 2134 ад 16.07.73 г. |
| 34 | – | манэты ЗША жоўтага колеру | 16 | — | — |
| 35 | – | залатыя манэты царскага біцьця | 46 | 221,8 | №35 ад 10.02.81 г. |
| 36 | – | манэты царскага біцьця з жоўтага мэталу | 12 | 89,07 | № 202 ад 03.06.87 г. |

Разам:
2088,5 адзінак

*Намесьнік міністра ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь Б.І.Матусевіч*

ДАВЕДКА
аб кошце каштоўных мэталаў і каштоўных камянёў (згодна са сьпісам скарбаў манэтаў і ювэлірных вырабаў, накіраваных у Дзяржаўнае сховішча каштоўнасьцяў па Міністэрстве ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь за пэрыяд з 29.09.64 г. па цяперашні час)

| № | Назва каштоўнасьцяў | Дата адпраўкі | Колькасьць адзінак | Вага, г | Проба | Цана 1 г, за 1 адз. | Скупкавы кошт | № прэйск, год вып. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | залатыя манэты царскага біцьця | 04.11.66 г. | 49 | 414,0 | 900 ум. | 7,74 | 379,26 | 1964 |
| 2 | – | 14.01.69 г. | 11 | 90,2 | 900 ум. | 7,74 | 85,14 | 1964 |
| 3 | – | 16.12.69 г. | 140,5 | 601,6 | 900 ум. | 7,74 | 1087,47 | 1964 |
| 4 | – | 20.12.84 г. | 10 | 68,6 | 900 | 42,0 | 2881,2 | 1981 |
| 5 | – | 16.05.85 г. | 8 | 63,2 | 900 | 42,0 | 2654,4 | 1981 |
| 6 | адліўкі золата* | 09.10.86 г. | 3 | 3827,8 | 583* | 27,0 | 103350,6 | 1981 |
| 7 | адліўкі золата | 16.05.77 г. | 2 | 42,75 | 583* | 6,9 | 294,97 | 1974 |
| 8 | залатыя манэты царскага біцьця | 31.05.77 г. | 6 | 5,03 | 900 | 10,6 | 53,32 | 1974 |
| 9 | – | 04.11.85 г | 284 | 1638,57 | 900 | 42.0 | 68819,94 | 1981 |
| 10 | – | 31.05.89 г. | 59 | 436,15 | 900 | 54,0 | 23552,1 | 1987 |
| 11 | залатыя манэты дарэвалюцыйнага біцьця | 23.09.82 г. | 64 | 34,2 | 900 | 42,0 | 1436,40 | 1981 |
| 12 | – | 28.06.84 г. | 13 | 68,5 | 900 | 42,0 | 2877,0 | 1981 |
| 13 | – | 18.02.91 г. | 29 | 124,2 | 900 | 75,6 | 9389,52 | 1989 |
| 14 | манэты срэбныя | 12.01.86 г. | 33 | 920,0 | 800* | 0,814 | 748,86 | 1981 |
| 15 | залатыя манэты | 29.09.64 г. | 15 | 168,77 | 900 | 0,90 | 151,89 | 1964 |
| 16 | срэбныя манэты Польскага буржуазнага банку | 29.09.64 г. | 124 | 1340,0 | 750* | 0,021 | 28,14 | 1964 |
| 17 | залатая манэта дарэвалюцыйнага пэрыяду | 28.06.79 г. | 1 | 351,05 | 900 | 10,6 | 3721,13 | 1974 |
| 18 | залатыя амэрыканскія даляры | 28.06.79 г. | – | 601,65 | 900 | 10,6 | 6377,49 | 1874 |
| 19 | залатыя манэты царскага біцьця 900 пробы | 04.10.79 г. | 10 | 60,06 | 900 | 10,6 | 636,64 | 1874 |
| 20 | – | 18.05.87 г. | 10 | 98,69 | 900 | 42,0 | 4144,98 | 1981 |
| 21 | дыямэнты | 04.06.87 г. | 27 | 4,32 кар. | – | 385,0 за 1 карат | 1663,2 | 1981 |
| 22 | манэты залатыя царскага біцьця | 19.06.88 г.. | 8 | 103,05 | 900 | 54,0 | 5564,7 | 1987 |
| 23 | манэты залатыя царскага біцьця варт. 15 руб. | 01.12.89 г. | 1 | 12,9 | 900 | 75,60 | 975,24 | 1989 |
| 24 | залатыя манэты варт. 5, 10 руб. | 1973 год | 150 | 835,1 | 900 | 10,6 | 8852,06 | 1974 |
| 25 | – | 1975 год | 15 | 207,35 | 900 | 10.6 | 2197,91 | 1974 |
| 26 | срэбныя манэты | 1975 год | 129 | 1310,4 | 800 | 0,048 | 62,88 | 1974 |
| 27 | залатыя манэты | 17.09.82 г. | 133 | 801,25 | 900 | 42,0 | 33652,5 | 1974 |
| 28 | пярсьцёнкі з плятыны | 11.09.66 г. | 116 | 1386,85 | 950* | 2,56 | 3550,34 | 1981 |
| 29 | залатыя манэты царскага біцьця | 07.06.71 г. | 44 | 340,5 | 900 | 10,6 | 3609,3 | 1964 |
| 30 | – | 21.03.72 г. | 68 | вага адсутн.299,2** | 900 | 10,6 | 3171,52 | 1974 |
| 31 | – | 30.09.71 г. | 52 | вага адсутн. 1694,0** | 900 | 10,6 | 2425,28 | 1974 |
| 32 | амэрыканскія манэты з жоўтага мэталу | 30.09.71 г. | 15 | 349,83 | 900 | 10,6 | 3708,19 | 1974 |
| 33 | залатыя манэты царскага біцьця | 16.07.73 г. | 385 | вага адсутн. 1694,0** | 900 | 10,6 | 17956,4 | 1974 |
| 34 | манэты ЗША жоўтага колеру | 16.07.73 г. | 16 | вага адсутн. 372,12*** | 900 | 10,6 | 3955,07 | 1974 |
| 35 | залатыя манэты царскага біцьця | 10.02.81 г. | 46 | 221,8 | 900 | 42,0 | 9315,6 | 1981 |
| 36 | манэты царскага біцьця з жоўтага мэталу | 03.06.87 г. | 12 | 89,07 | 900 | 42,0 | 3740,94 | 1981 |
| Разам: | | | | 337071,40 | | | | |

Заўвагі:
1*. З-за адсутнасьці ў сьпісе зьвестак пра пробу і наміналы манэтаў па п.п. 1-36 проба і вага манэтаў і адліўкаў вызначаліся па нумізматычных каталёгах ці па мінімальных зьвестках.
2**. Вага манэтаў па п.п. 30, 31, 33 вызначана паводле сярэдняй вагі адной манэты па каталёгах.
3***. Вага каштоўных мэталаў па п.34 была вызначана паводле сярэдняй вагі адной манэты па п. 32.

*Рэспубліка Беларусь*
*Міністэрства Фінансаў*
*28.04.92 №01-10/70*
*Вярхоўны Савет*
*Рэспублікі Беларусь*
*Народнаму дэпутату*
*т.Трусаву А.А.*

Міністэрства фінансаў разгледзела заўвагі і прапановы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Трусава А.А. (Мірашнічэнкаўская выбарчая акруга №33 г.Менск) і паведамляе, што і раней на запыт камісіі Вярхоўнага Савету па адукацыі і захаваньні гістарычнай спадчыны ўносіліся прапановы ў Дзяржэканомплян (ліст №12-6/642 ад 20.12.91 г.).

Парадак паступленьня, уліку скарбаў вызначаны інструкцыяй Міністэрства фінансаў ад 11 сакавіка 1996 году №05-6/439 «Аб парадку выяўленьня і ўліку безгаспадарчай маёмасьці». Інструкцыя выдадзена ў адпаведнасьці з Грамадзянскім кодэксам Беларускай ССР, зацьверджаным Вярхоўным Саветам БССР 11 чэрвеня 1964 году.

У адпаведнасьці з патрабаваньнямі інструкцыі прадметы скарбаў, якія маюць гістарычную, навуковую, мастацкую, музэйную ці іншую культурную каштоўнасьць, па заключэньні спэцыяльнай камісіі перадаюцца ў музэйныя ўстановы Рэспублікі.

Значная частка скарбаў захоўваецца ў Белдзяржмузэі і Магілёўскім краязнаўчым музэі, а таксама і ў іншых музэях рэспублікі.

Пры неабходнасьці падрабязную інфармацыю можна запытаць у Мінкультуры Рэспублікі.

У іншых выпадках прадметы, якія маюць складнікамі каштоўныя мэталы, перадаюцца на захаваньне ўстановам Нацыянальнага банку згодна з часовым парадкам, усталяваным рашэньнем Рады Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 верасьня 1991 году №03/307-768.

Паводле зьвестак Міністэрства ўнутраных справаў рэспублікі ў 1990 годзе скарбы ў Дзяржсхоў не здаваліся, у 1991 годзе (18 лютага) адбылася адна адпраўка колькасьцю 29 адзінак залатых манэт вагой 124,2 грамы.

Улічваючы нязначнае іх паступленьне, усталяваны парадак дазваляе забясьпечваць захаванасьць скарбаў.

Стварэньне ўласнага Дзяржсхову ў пэрспэктыве ня выключанае, і такое пытаньне прапрацоўваецца ў комплексе з рашэньнем пытаньня аб пастаўках, спажываньні каштоўных мэталаў, вяртаньні адкідаў, іх перапрацоўцы. На гэта патрабуюцца значныя выдаткі, зьвязаныя з праектаваньнем, будаўніцтвам спэцыяльнага сховішча, абсталяванага адпаведнай апаратурай, аховай аб'екту, рэжымнымі патрабаваньнямі да працы з каштоўнасьцямі.

*Намесьнік міністра Н.Ф.Румас*

Міністэрства фінансаў СССР
Дзяржаўнае сховішча каштоўнасьцяў СССР
Вярхоўны Савет БССР
Камісія па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны
Нам. старшыні Камісіі
т.Трусаву А.А.

З 1961 г. па сёньня ў Дзяржсхоў СССР ад Беларускай ССР паступілі наступныя скарбы:

1. У 1977 годзе паступіў скарб, аднесены да шэрагу ўнікальных. Скарб быў знойдзены каля вёскі Карытніца Бялыніцкага раёну Магілёўскай вобласьці. Складаецца з 225 залатых манэт эўрапейскіх дзяржаваў, XVI—XVII стагодзьдзяў.

2. У 1987 годзе паступіў скарб зь Віцебскай вобласьці, г.Глыбокае. Скарб складаўся з залатых манэтаў дарэвалюцыйнага (расейскага) біцьця колькасьцю 630 адз., зь іх 602 адз. вартасьцю 5 руб., у тым ліку 598 адз. 1896, 1906, 1911 гг. выпуску, 900 пробы, 2 адз. 1948 і 1851 гг., 900 пробы, і 2 адз. аднесены да шэрагу нумізматычных, 916 пробы; 28 адз. вартасьцю 19 руб., 900 пробы.

Архіўных зьвестак да 1961 году Дзяржсхоў СССР ня мае.

У працэсе распрацоўкі (экспэртызы, ацэнкі) скарбы, апроч унікальных, абагульваюцца.

Доступ у Дзяржсхоў СССР для вывучэньня манэтаў строга абмежаваны і можа ажыцьцяўляцца па спэцыяльным дазволе кіраўніцтва Мінфіну СССР для кожнага асобнага выпадку.

*Кіраўнік Дзяржсхову СССР*
*А.Н.Казлоў*

апытаньне «НН»

# СКАРБЫ ТАМ, ДЗЕ ІХ СХАВАЛІ ЛЮДЗІ

Павярхоўнае азнаямленьне зь беларускай гісторыяй стварае ў сьвядомасьці людзей стэрэатыпы, напрыклад, што гэтую зямлю кожнае стагодзьдзе таптала некалькі зьнішчальных войнаў. Адзін з такіх цьвёрдых стэрэатыпаў — што Беларусь менш багатая на гістарычныя каштоўнасьці, чым ейныя суседзі. Такі стэрэатып склаўся дзеля таго, што пад час войнаў і чыстак XX ст. ды доўгага існаваньня пад Масквою амаль усе нашы набыткі былі вывезеныя за межы краіны, а то й проста зьніклі. Каляніяльнаму стэрэатыпу пра культурную беднасьць Беларусі супрацьстаіць антыкаляніяльны міт пра пра надзвычайнае багацьце нашай спадчыны і ягонае забраньне рознымі акупантамі. Які з стэрэатыпаў пераважае ў грамадзтве? Мы правялі невялікае апытаньне менскага паспольства з мэтай даведацца, што думаюць людзі пра нашы скарбы і месца іх знаходжаньня.

Часьцей за ўсё моладзь успамінала Крыж Сьвятой Эўфрасіньні, пару разоў узгадалі славутых 12 (вэрсія — 13) радзівілаўскіх апосталаў (дарэчы, апытаная выкладчыца факультэту журналістыкі БДУ заўважыла, што Радзівілы былі не беларусамі, а палякамі); аднойчы назвалі Літоўскія мэтрыкі ды «кнігі Скарыны, захоўваныя айцом Аляксандрам Надсанам у Лёндане». Вось і ўсё. Па вялікім рахунку, амаль нічога. Прычына, мабыць, у тым, што і людзі, якія займаюцца пытаньнем пра лёс беларускай спадчыны прафэсійна, няшмат зьвестак раскапалі і яшчэ меней данесьлі да людзей. Відавочна, што выдадзеныя Скарынаўскім цэнтрам тры кніжкі з навуковай сэрыі «Вяртаньне» былі кропляй, кінутай у чытацкае мора.

Дзе ж ляжаць-хаваюцца нашы скарбы? Ці вернем мы іх і як? Апытаныя былі на дзіва аднадушныя (за выняткам тых, хто нічога ня ведаў аб прадмеце нашае цікавасьці): беларускія гістарычныя каштоўнасьці знаходзяцца за ўсходняй мяжой, і вяртаць іх ніхто не зьбіраецца. Коратка адказаў на нашы пытаньні Дзядзька Язэп, стваральнік папулярнага беларускага інтэрнэт-сайту «Карчма ў Старога Язэпа»:

*«Скарбы там, дзе іх схавалі людзі. Дзе апосталы, я ня ведаю, а Крыж Эўфрасіньні Полацкай вісіць у мяне ў Карчме»*. Студэнтка Аля выказалася ў тым сэнсе, што ўсё, створанае на гэтай зямлі, ёсьць скарбам.

Старшыня Дзяржкамітэту па ахове гісторыка-культурнае спадчыны сп.Бубноўскі падкрэсьлівае, што *«трэба чакаць палітычнай стабілізацыі. З-за палітычнай нестабільнасьці ў зацікаўленых краінах* [маюцца на ўвазе найперш Беларусь ды Расея — А.Б.], *такога пытаньня цяпер і не стаіць»*. Пасьля стабілізацыі, маўляў, справа з рэстытуцыямі пойдзе значна лепш. Ці гэта намёк дзяржчыноўніка ад культуры на міжнародную ізаляцыю беларускага рэжыму? На міждзяржаўным узроўні, адзначыў ён, існуюць пагадненьні пра вяртаньне толькі зь Нямеччынай, Польшчай ды дэклярацыйнае пагадненьне з краінамі СНГ, якое, як мы памятаем, у аднабаковым парадку не падпісала Расея. Расея ж прыняла закон пра рэстытуцыі, згодна зь якімі іншыя краіны ня могуць прэтэндаваць на свае гістарычныя скарбы. Аднак сп.Бубноўскі паведаміў, што, маўляў, можа быць надзея: *«Расейскі бок зрабіў пэўныя агаворкі, што ў канкрэтных выпадках запатрабаваньні ўсё ж будуць разглядацца і могуць быць вырашаныя на карысьць Беларусі на аснове рашэньня расейскага ўраду ды міжурадавых пагадненьняў»*. Але відавочна, што гэта не заваёва беларускага боку, а неабавязковая абяцанка расейскага.

Найбольшы прагрэс у справе вяртаньня культурнай спадчыны, як кажа сп.Бубноўскі, у нас з Польшчай. Палякі — адзіныя, з кім Беларусь мае двухбаковую камісію па ўзаемным вяртаньні гістарычных каштоўнасьцяў, і станоўчых вынікаў яе працы нельга не прызнаць. Па-першае, польскі бок перадасьць на захаваньне беларусам калекцыі партрэтаў знакамітых гістарычных дзеячоў Беларусі, Польшчы ды Ўкраіны. Гэтыя творы ў пачатку 50-х гадоў былі перададзеныя братняй Польшчы саветамі з музэяў Нясьвіжу ды Горадні. А ў беларусаў ніхто й не спытаўся. Па-другое, нядаўна Беларусі ўрачыста перадалі копію мэтрычнай кнігі, у якой знаходзіцца запіс аб нараджэньні Адама Міцкевіча. Самае цікавае ў гэтай гісторыі тое, што гэтая кніга была незаконна вывезеная, фактычна скрадзеная зь Беларусі ў Польшчу. Але, як мы бачым, у абодвух выпадках Польшча не зьбіраецца перадаваць арыгіналы ва ўласнасьць, нават пры сумнеўным шляху іх атрыманьня.

*«Для камітэту праблема рэстытуцыяў далёка не галоўная, — сказаў сп.Бубноўскі. — На першым пляне не вяртаньне, а выратаваньне таго, што знаходзіцца ў межах краіны — як рухомай, так і нерухомай спадчыны. Многія аб'екты патрабуюць неадкладнай рэстаўрацыі, патрэбныя сховішчы з адэкватнымі ўмовамі ўтрыманьня каштоўнасьцяў. Што да нерухомасьці, дык зь дзяржбюджэту выдзяляецца прыкладна адна дваццатая ад патрэбнага»*. Вось так: быццам бы няма нам калі і як вяртаць свае багацьці.

**Андрэй Белавокі**

# АПОШНЯЯ КНІГА

### *40 дзён па Міколу Ермаловічу*




Працуючы над гэтай кнігаю, мастакі, рэдактары й выдаўцы ня думалі, што аўтар ніколі яе не пабачыць, не патрымае ў руках цёплы сыгнальны асобнік, што пахне фарбаю. Фактычна ж і пабачыць яе з-за сваёй амаль поўнай сьлепаты ён бы ня змог; з-за гэтае праклятае сьлепаты ён і загінуў, патрапіўшы 40 дзён таму пад машыну. Але кніга будзе. Яна будзе распавядаць беларусам пра іхнае месца ў сям'і эўрапейскіх народаў. Будзе расплюшчваць вочы несьвядомым і мацаваць сьвядомых. Гэта будзе апошні аргумэнт Міколы Ермаловіча ў ягонай барацьбе.

«Беларуская дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае» ахоплівае пэрыяд нашае гісторыі ад Міндаўга да канца XVIII ст. На працягу стагодзьдзяў ВКЛ было нашым гістарычным псэўданімам — праз веліч і магутнасьць часоў Вітаўта й Грунвальда аж да заняпаду канца Рэчы Паспалітай. Усё XIX і XX ст. нашая радзіма знаходзілася ў магутных абдымках нашае ўсходняе сястрыцы. І толькі абрэвіятура ВКЛ па сёньня інсьпіруе й корміць плойму гісторыкаў і палітыкаў, літаратараў і філёзафаў правае, левае, усходняе, заходняе, фальшывае й нават, часам, праўдзівае арыентацыі.

Кніга складаецца з чатырох разьдзелаў: «Наваградзкі пэрыяд», «Віленскі пэрыяд», «Крэўскі пэрыяд (г. зн. пасьля уніі)» і «Пэрыяд Рэчы Паспалітае».

Выданьне багата ілюстраванае, у цьвярдой, каляровай вокладцы.

Як узьнік гэты праект, дзе знайшліся грошы, хто рызыкнуў?

**Ігар Марачкін, мастак:**

*Калі мы браліся за гэты праект (Міхноўскі, Цьвірка, Сташчанюк і я), грошай на выданьне не было. Быў рукапіс кнігі, вельмі патрэбнай для беларусаў, быў славуты аўтар, і надта хацелася ўсё*



*зрабіць, як належа. Таму й прыйшлося мне распрацаваць ажно тры варыянты вокладкі. Усе дэталі макету скрупулёзна абмяркоўваліся зь Міколам Іванавічам. Ён мала што бачыў, але ўважліва дапамагаў. Калі быў скончаны апошні варыянт, Мікола Міхноўскі пайшоў па людзях і назьбіраў-такі патрэбную суму. Усе фундатары будуць пайменна названыя ў кнізе...*

**Віктар Сташчанюк, мастак:**

*Прапанову папрацаваць над гэтай кнігаю я палічыў за гонар. Я ўсё жыцьцё займаюся, так бы мовіць, маляванай гісторыяй Беларусі. Асабліва Наваградку і ягоных ваколіцаў, бо сам адтуль родам. Мікола Іванавіч, чалавек акуратны й дакладны, падрыхтаваў сьпіс ілюстрацыяў, неабходных у кнізе, на ягоную думку. Вылучыў усяго каля 40 сюжэтаў і асобаў. Мы ж, працуючы над кнігаю, пашырылі гэты аб'ём удвая. Аўтар з намі пагадзіўся. Часам даводзілася цалкам перамалёўваць няякасныя арыгіналы, імітуючы старажытную гравюру. Здаецца, атрымалася няблага.*

**Мікола Міхноўскі, намесьнік дырэктара Беллітфонду:**

*«Ермаловіч прынёс да нас рукапіс летась, у верасьні. Ён жа быў сябром Саюзу пісьменьнікаў... Грошай не было. Пачалі з пэўнай сумы, выдаткаванай Таварыствам сьляпых, у якім Мікола Іванавіч быў паўстагодзьдзя. Рэдагавалі мы кнігу супольна з Кастусём Цьвіркам. Усе праўкі ўзгадняліся з аўтарам. Рэдагаваньне скончылася са сьмерцю аўтара. Больш мы нічога ў тэксьце ня кранулі. Цяпер кніга ў друкарні...»*

Ён змагаўся ўсё жыцьцё: з уласнай і чужою сьлепатою, са стэрэатыпамі й навуковымі апанэнтамі. Цяпер гэта будзе рабіць ягоная кніга.

**Уладзімер Крукоўскі**

каляндар



**18 красавіка 1900 г.** на Мастоўшчыне нарадзіўся Даніла Ваўковіч, дзяржаўны дзяяч БССР. Ягоны лёс і палітычная кар'ера характэрныя для бальшавіцкага часу. Эвакуацыя ў Расею, уступленьне ў бальшавіцкую партыю, потым у Чырвонае войска, праца ў ВЧК, ліквідацыя контрарэвалюцыйных мяцяжоў. У 1920 г. Ваўковіча пераводзяць на Заходні фронт (у Беларусь). Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі сьціпла паведамляе пра 1920 г. у ягоным жыцьці: *«вёў барацьбу з бандытызмам у Бабруйскім і Мазырскім паветах»*. Барацьба з бандытызмам у Мазырскім павеце азначае змаганьне з войскам генэрала Булак-Балаховіча, якое спрабавала стварыць Беларускую рэспубліку. У тым канфлікце перамаглі чырвоныя. Беларусь стала савецкай. Па заканчэньні вайны Даніла робіць хуткую кар'еру: спачатку камсамольская дзейнасьць, потым праца ў райкамах, 30 траўня 1937 г. Даніла Ваўковіч абіраецца старшынём Савету Народных Камісараў БССР. Але жорны рэпрэсіяў ужо круціліся, і арышт Ваўковіча быў справай часу. Пакіраваць Беларусяй удосталь ён не пасьпеў, бо ў верасьні 1937 г. па абвінавачваньні ў *«шкодніцкай дзейнасьці ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі»* быў арыштаваны і прыгавораны да «найвышэйшай меры пакараньня».



**19 красавіка 1775 г.** адбылося першае ўзбройнае сутыкненьне амэрыканскіх паўстанцаў з ангельскімі войскамі пад Лексінгтанам, што ў Масачусэтсе. Бой скончыўся перамогай амэрыканцаў. Са стрэлаў у Лексынгтане пачалася амэрыканская вайна за незалежнасьць (амэрыканская рэвалюцыя), якая скончылася стварэньнем новай дзяржавы — Злучаных Амэрыканскіх Штатаў. Аднак думку наконт пачатку рэвалюцыі аспрэчыў будучы другі прэзыдэнт ЗША Джон Адамс, які заявіў: *«рэвалюцыя адбылася да таго, як пачалася вайна, рэвалюцыя адбылася ў сэрцах і думках народу»*. Амэрыканцы ўсьвядомілі сябе асобнай нацыяй, калі брытанскае войска адступала зь Лексынгтану да Бостану. Тады, кажуць сьведкі, з кожнай фэрмы, з кожнага дому ангельцаў абстрэльвала мясцовае насельніцтва. Вайна за незалежнасьць прыцягнула шмат добраахвотнікаў. У жніўні 1776 г. на амэрыканскі кантынэнт прыехаў вайсковы інжынэр Тадэвуш Касьцюшка, які 18 кастрычніка таго году быў залічаны ў амэрыканскае войска ў званьні палкоўніка. Сем гадоў праваяваў Касьцюшка ў Амэрыцы, і ягоны талент вайсковага інжынэра знайшоў найлепшы ўжытак. У бітве пад Саратогай было разгромленае буйное злучэньне брытанскай арміі, і перамога пад Саратогай была зьдзейсьненая дзякуючы фартыфікацыйным умацаваньням, створаным пад кіраўніцтвам Касьцюшкі. Ён пабудаваў крэпасьць ўва Ўэст-Пойнце, дзе цяпер знаходзіцца амэрыканская Вайсковая Акадэмія. Удзячныя амэрыканцы рукамі нашага земляка Генрыка Дмахоўскага паставілі помнік Касьцюшку ля Белага Дому ў Вашынгтоне.

**21 красавіка 1500 г.** мараплаўца Люіш Кабрал першым з эўрапейцаў дасягнуў берагоў Бразыліі. Бразылія ад пачатку свайго існаваньня стала краінай для эмігрантаў, у тым ліку і для беларусаў. Першыя арганізаваныя эмігранты зь Беларусі зьявіліся там у XIX ст. (Ігнат Дамейка дабраўся аж да Чылі), але масавая эміграцыя распачалася напачатку XX ст. Бразылія прыцягвала нашых суайчыньнікаў бязьмежнымі тэрыторыямі і прыхільным стаўленьнем да эмігрантаў: зямля каштавала танна, эмігранты на першых часах вызваляліся ад падаткаў. Эміграцыя працягнулася пасьля 1944 г., калі дзясяткі тысячаў беларусаў пакінулі Айчыну, непакоячыся за свой лёс пад савецкай акупацыяй. Цяпер у Бразыліі, паводле розных падлікаў, жыве каля 150 тыс. людзей беларускага паходжаньня, раскіданых па ўсёй краіне ад Фарталезы да Порту-Алегры.

**22 красавіка 1725 г.** дваццацігадовая Францішка Ўршуля Вішнявецкая пабралася шлюбам з Міхалам Казімірам «Рыбанькам» Радзівілам. Міхал Казімір ажаніўся зь дзяўчынай, нягледзячы на праклёны сваёй маці, якая была супраць выбару сына. Каханьне перамагло. Пасьля заключэньня шлюбу маладыя пасяліліся ў Нясьвіжы, адным з родавых маёнткаў Радзівілаў.

Францішка Ўршуля рэдка пакідала Нясьвіж, займаючыся справамі маёнтку і дзецьмі. Муж часьцяком зьяжджаў па справах, а жонка пісала яму доўгія-даўжэзныя лісты... ў вершах. Нават сваім дзецям — адным зь іх быў будучы Пане Каханку — яна пісала павучэньні і настаўленьні таксама ў вершаванай форме. Францішка Ўршуля арганізавала ў Нясьвіжы тэатар. Першы спэктакаль адбыўся ў чэрвені 1746 г. — гэта была ейная п'еса «Дасьціпнае каханьне». Францішка Ўршуля сама пісала п'есы і перакладала Мальера і Вальтэра. П'есы ігралі ў спэцыяльна зробленай дзеля гэтага тэатральнай залі, якая асьвячалася адмысловымі 52-ма ліхтарамі, а ўлетку — пад адкрытым небам, у парку Альба. У 1752 г. у Нясьвіскім тэатры была пастаўленая опэра «Сьляпое каханьне не зважае на вынік», і ў тым жа годзе заснаваная балетная школа. За Францішкай Уршуляй Нясьвіж ператварыўся ў значны культурны цэнтар ня толькі Вялікага Княства, але і ўсёй Рэчы Паспалітай. У той час тут былі заснаваны кадэцкі корпус, адноўленая друкарня, пабудавана некалькі мануфактураў, сярод якіх і славутая мануфактура шаўковых паясоў, пазьней перанесеная ў Слуцак.

**23 красавіка 1875 году** ў заходніх расейскіх губэрнях (Беларусі і Літве) праводзіцца рэформа гарадзкога самакіраваньня. У Беларусі ўводзіўся новы бессаслоўны орган гарадзкога самакіраваньня — гарадзкая дума. Выбар гласных (сяброў) у гарадзкую думу адбываўся па трох курыях у залежнасьці ад маёмаснага цэнзу. Выканаўчым органам гарадзкой думы была гарадзкая ўправа, якая складалася з двух-трох чалавек і выконвала пастановы, прынятыя на пасяджэньнях гарадзкой думы. Уводзілася таксама пасада гарадзкога галавы, які ўзначальваў і гарадзкую ўправу, і гарадзкую думу. Сто гадоў таму менскім гарадзкім галавой быў прадпрымальнік і банкір граф Чапскі, якому належала некалькі будынкаў у горадзе, а таксама бровар «Багемія», цяпер — «Алівары».

**Алег Гардзіенка**

# МАНСАРДЫ НАВАПОЛАЦКУ

Сяргей ШЫДЛОЎСКІ



## Француcкі бульвар

Францускі бульвар, як у Адэсе, тэрасамі сыходзячы да Дзьвіны, — сталая кроза навапольскіх архітэктараў, журналістаў і проста неабыякавай грамадзкасьці. Каштанавая мара гэтая пацьвярджае: навапалачане прызвычаіліся нітаваць ідэалы зь ляндшафтам. Сам горад нафтахімікаў паўстаў некалі як сфэра чыстых магчымасьцяў — на голым месцы пасярод прыдзьвінскіх сасоньнікаў. Сасновым паветрам дыхаюць і сучасныя нашчадкі колішніх першабудаўнікоў беларускай нафтахіміі. Першабудаўнік — гэта навапалацкі архетып, тубыльцы, арыентаваныя на выклік — прыродны, культурны, спартовы, нарэшце. Тут файна пачынаць новую справу. Гісторыя гораду паміж выйсцем «Блакітнага ліхтара» і адноўленых «Калосься» — гэта летапіс пачаткаў. І пачаткоўцаў.

## Фасад

Фасад Наваполацку выходзіць на Дзьвіну тарцамі дзевяціпавярховікаў з цыкляпічнымі пано А.Кішчанкі. За выняткам гэтай соцартаўскай познамкі, закліканай прэзэнтаваць індустрыйны парыў камсамоліі, — Наваполацак у астатнім нэўтральна-бэтонны, сэрыйны горад «80 нацыяў», 81-й і самай прагрэсіўнай у навапалацкім выпадку былі нафтахімікі. Фармаваньню гэтай супэрсупольнасьці падпарадкаваная ўся адукацыйная інфраструктура — на 105-тысячны горад прыпадае 13 расейскамоўных школаў і 1 кляса этнакультуры, якую дэманстравалі нават па БТ — дзеткі ў беларускіх вышыванках. Замяталін, калі бачыў іх, мусіць, пусьціў сьлязу. Фасад.

## Urbi et Orbi

Наваполацак — паселішча вясковых мігрантаў, таму навапалачане гуляюць у Горад, вучацца быць гараджанамі.

## Сачы за мовай

«Малая радзіма» — тыповы маскалізм — гэтак менавалі ў савецкіх падручніках Беларусь, а цяпер падобны выраз карабацідь слых, калі гавораць пра Гомель, Берасьце ці Наваполацак. Хоць няма й быць ня можа для беларуса такога панятку — не існуе нічога большага за Беларусь і пагатоў ня кроіцца яна на лусты. Горадня, Магілёў, Пінск — сынонімы Беларусі. Дзе знойдзеш «большай» Беларусі, як ня тут — у гэтых спрадвечных, паводле выразу рэдактара «Нашай Нівы», «гнёздах беларушчыны».

## Істотнае

У Наваполацку праўдзіцца Геаграфія Аркадзя Смоліча, касуючы савецкую тэорыю «дзьвюх Беларусяў» — Заходняй ды Ўсходняй. Полаччына — Беларусь Паўночная. Менавіта яе традыцыя дазволіла паўстаць Наваполацку як адраджэнскай мэтраполіі, застаючыся фармальна камсамольскім горадам — «радзімай 80 нацыяў і народнасьцяў». Фэрмэнтам, які паскорыў «пeратраўленьне», была традыцыяналісцкая закваска мігрантаў з засьцянкова-местачковай Лепельшчыны, Дрысеншчыны, Браслаўшчыны і Дзісеншчыны. Такім чынам, істэрнізацыя, але ўсё ж — мадэрнізацыя. Моцнае магнэтычнае поле Полацку, імпульсаў якога ня здолелі загамаваць аніякія Абэцэдарскія, і дало забеларускі Наваполацак. Варта згадаць і іншы чыньнік, імя якому — Уладзімер Арлоў.

## Арлоў

Анэкдот, якога хапіла б ашчаднаму аўтару на эпапэю, Арлоў вычэрпвае абзацам. Рэклямшчыкі цьвердзяць, што Арлоў піша свае эсэі слёганамі, патрыёты — што крывёю па бел-белым. Але чым бы знаны зямляк ні пісаў, атрымліваецца гэта ў яго заўжды канвэртабельна: арлоўскія фразы льга прадаваць ураздроб — тым жа невынаходлівым рэклямшчыкам. Яно й ня дзіва, як выславіўся адзін культурнік — «на Арлова ходзяць нават бабы ў махеравых шапках» — фэнамэнальны посьпех для адраджэнскіх арыстакратаў духу. Для Полаччыны аўтар «Таямніц полацкай гісторыі» ўяўляецца новай рэінкарнацыяй Усяслава Чарадзея, што ў сваім княскім праве паставіў па-гаспадарску на прамысловы грунт здабычу і перапрацоўку галоўнага стратэгічнага рэсурсу Полацку — гістарычнага. Арлоўскім рупескам полацкі дыскурс, заселены з часоў Власта мерсьцямі ды патарочамі, пачаў запаўняцца сучаснай фактурай, дый чытачом, нарэшце — варта бачыць набіткаваныя залі навапалацкіх чытальняў на прэзэнтацыях новых кніг Арлова. На адной з падобных імпрэзаў аўтар «Дня, калі ўпала страла» падпісаў сваю кнігу мясцоваму сямікляснiку, аўтару гэтых радкоў, з пажаданьнямі «пяцёрак» па гісторыі — і як наўрочыў — каб яшчэ па фізыцы гэтаксама ж.

## Мэтро

Калі ў горадзе зьявіўся першы, ён жа пакуль і адзіны, падземны пераход, рэпэртуар маладзёнаў у самаволцы ўскладніўся новым крутым прыколам: «Дзевушкі, як прайсьці да мэтро?» Цікавосьць гэтая не такая ўжо і пустая, — у пэўных пiвярнях узялі за моду зачыняць сарціры на ключ, а пасьля шостага куфля ня ў кожнага неабстралянага навадранца павернецца язык той ключ папрасіць. Бясплатных жа прыбіральняў у горадзе бракавала заўжды, у чым пранiклівыя дасьледнікі спасочваюць «непаразуменьне дзьвюх мадэляў экалягічнае культуры — вясковай ды ўрбаністычнай» (І.Ульстарэовіч). Як бы там ні было насамрэч, але карыстацца навапалацкім «мэтро» па ягоным наўпроставым прызначэньні цяпер непрыемна і небясьпечна. Гэта прызналі ўрэшце і гарадзкія ўлады, павесіўшы ля самага, карыстаючыся тэрмінам са «Слоўніка-2000», «падзему», сьветлафор. Застаецца цяпер зрабіць уваход у «мэтро» платным, каб дабро не прападала.

## «Як у казцы»

Гэткай была мая «рэцэнзія» на нэоны Наваполацку, калі я прыехаў сюды пяцігадовым чалавекам упершыню. Тая імпрэсія мая мела надзвычайны посьпех у дарослых — навапалачане любяць свой горад. Гэтае цывілізаванае пачуцьцё надае Наваполацку большую прывабнасьць у параўнаньні з цэнтрамі — адміністратыўнымі, але недалюбленымі сваім жыхарствам. Знаходзячыся на хімічным — «нафтанаўскім» — вастры паўднёва-заходняй «ружы вятроў», пры ўсіх сваіх камунальных ды архітэктурных хібах Наваполацак застаецца ўтульным горадам. Паважаць сябе азначае жыць тут і цяпер. Мясцовыя культурнікі не пакутуюць на комплекс Рабінзонаў беларушчыны. Постсавецкая рэчаіснасьць прымаецца тут як рабочая дадзенасьць. У Наваполацку дзейнічаюць тры літаратацкія арганізацыі, якія па геаграфічным ахопе сваіх супольнікаў маюць агульнабеларускі статус, узьнікаюць новыя выданьні — з апошніх «Арт-сэзон» і вельмі сымпатычны «Палімпсэст».

## Авансы ды інвэстыцыі

Наваполацак традыцыйна прыслухоўваецца да «Нашай Нівы». Ужо трэцяе пакаленьне навапалачанаў уваходзіць у культурны кантэкст краіны праз Вострую браму «першай беларускай газэты з рысункамі». А асабліва моцныя пазыцыі газэты ў тутэйшым унівэрсытэце — і ня толькі ў студэнцкіх аўдыторыях, але і ў выкладчыцкіх пакоях. Падобную сытуацыю можна вытлумачыць сталымі традыцыямі жывой беларушчыны, якія тут ніколі не перапыняліся — маладых навапалачанаў вызначае стратэгічнае бачаньне сваёй беларускай місіі ў краі ды павага да папярэднікаў. Кропкавыя акцыі беларускіх асяродкаў у 80-х вывелі Наваполацак да выбараў у ВС 1989 году, на якіх посьпеху дамагліся кандыдаты БНФ на чале зь Лявонам Баршчэўскім. «Рассаднікам нацдэмаўшчыны» было літзгуртаваньне «Крыніцы», зь якім супрацоўнічалі Н.Гальпяровіч, І.Жарнасек, А.Глёбус, А.Мінкін, С.Сокалаў-Воюш, В.Аксак, Ул.Арлоў, І.Снарская, В.Аколава, М.Барэйша, Я.Лапатка — дасьледнік фінскай культуры, альбаніст В.Мудроў, бацька «Істэрну» А.Чарніцкі. А было ж яшчэ і ТВЛ троху пасьлей. Але не было б такога аўтарытэту «НН» у рэгіёне, каб не супалі тутэйшыя запатрабаваньні з прынцыпамі і творчымі інтэнцыямі газэты, арыентацыяй на несфальшаваную савеччынай традыцыю. Як і «Наша Ніва», Наваполацак марыць пра Балтыку.

## Настаўнік паветалізму

Часьцей за Барадуліна са сталіцы ў Наваполацак завітвае хіба толькі Арлоў. Цэнтральная навапалацкая бібліятэка са знанай у адраджэнскіх колах канфэрэнцзаляй, якая пабачыла сьвет беларускага прыгожага пісьменства ад Я.Брыля да А.Сыса — Маякоўская па форме, але па сутнасьці даўно ўжо Барадулінская. Полаччына спрадвек прамаўляла княскімі кронікамі, гандлёвымі дамовамі ды юрыдычнымі граматамі, а вось Паэтаў радзіме Ф.Скарыны ды В.Цяпінскага ўсё ж бракавала. Дзякуючы Рыгору Барадуліну, трымальніку вушацкаполацкага маўленьня, полацкія бабулькі, тубыльныя чароты-аэрыны, паны Завальня ды Твардоўскія — займелі ўрэшце свой аўтэнтычны голас.



Фота IREX-ProMedia

## Ёлупы гораду

N — малады горад, дык і бамжы тутака маладыя. Гарадзкія вар'яты — фірмовая тэма мясцовага этноляга Лобача, які патрапіў акрэсьліць гэтую сацыяльную зьяву ў сваіх нататках пра клясычную восень Сашы-сьмецяра. А мясцовы празаік Мудроў, пішучы па заданьні гарадзкой газэты артыкул аб камунальных недахопах, рассыпаўся раптам эсэем пра фантаны гораду N. Усяго іх тут тры: «Мальчык на шары» (гіпэррэалізм), «Няптун» і проста — зь цьветамузыкай. Здавалася б, не Пецяргоф, а атрымалася так, як да Мудрова па-беларуску не пісалі і пра Вэрсаль. Або тыя ж сны мясцовыя — надоечы паэт Алесь Аркуш надрукаваў ва ўласным альманаху собскі сон. Сон ягоны насамрэч быў ня собскі. Гэта быў сон гораду, які сьніць намі — нас.

## Горад пра маладых

Наваполацак найперш вядомы адсутнасьцю (пасьля гэтага слова хочацца ўзяць паўзу, бо Н-Полацак — «Н мінус Полацак», Навоштаполацак — сам ё адсутнасьцю, хімэрным анклявам, перапынкам у тысячагадовай тубыльнай гісторыі — хуткім зыркім сном крывіцкай дрымнасьці, небясьпечнай на палюцы, люстэркам лукавым, што касуе Полацку колькі стагодзьдзяў) — дык вось, адсутнасьцю помнікаў бальшавіцкім верхаводам. Ніякай, зразумела, фронды ў гэтым не было — проста фальшывыя багі сканалі раней, чымся скончылася будаўніцтва ізнага капішча на «бясконцай» навапалацкай вуліцы — Маладзёжнай. Не пасьпелі тут дабудаваць апошні мікраграён у выглядзе літары «С» — трэцяй у заплянаваным цыклапічным «СССР», як цёзка гэтай спаруды, калёс на гліняных ножках, разваліўся. Засталася ад імпэрыі ў напамінак адно жменька вуліц з двухсэнсоўнымі назовамі — Гайдара, напрыклад, якія для сучасных дзяцей няўцямныя, бо апошнія абмяркоўваюць ужо не Цімура са Шчірліцам, а Маўдэра з «Х-файлаў». Гэта горад-падлетак, што разьвіваецца пакуль толькі ўдоўжкі, а ўшыркі яго можна прайсьці ў кожным месцы за хвілінаў дваццаць. Ён сьпярэшчаны, як тынэйджараўскімі графіці, легкадумнымі назовамі-вулкамі, кшталту Паркавай, Лясной, Школьнай, Дружбы. Яны ствараюць уражаньне амаль некранутага ляндшафту — лясіных сьцяжынаў, як выславіўся нехта, закатаных у асфальт. Мо сапраўды так і ёсьць — ня маючы гісторыка-культурнага кантэксту, Наваполацак жорстка перадвызначаны ляндшафтам прыродным — тонкі эпідэрм урбанізму, распнуты між Дзьвіной і лесам. Ня дзіва, што горад здабыў сабе сярод абазнаных людзей славу сталіцы беларускага нэапаганства. У адсутнасьці сымбаляў культуры навапалацкі сасоньнік, працінаючы жылыя мікраёны, робіцца чыньнікам ідэалягічным і эстэтычным, а дваровая пустка — кантэкстам гарадзкога фальклёру. Эўрапейскія гарады праходзілі гэткі ж этап якраз на барбарскім сьвітанку цывілізацыі. Сказаць пра Наваполацак, што гэта малады горад, — нічога не сказаць. Гэта горад маладых і горад пра маладых — такіх, якія яны ёсьць

без прыўкрасаў. Нездарма пік «камсамольскіх будоўляў», сярод якіх і Наваполацак-1958, прыйшоўся на конадзень эўрапейскай сэксуальнай рэвалюцыі. Так імпульс разьняволеньня быў сканалізаваны на індустрыйную рэвалюцыю. Урэшце, запаскуджаная прырода засталася няскоранаю.

Наваполацак атрымаў надоечы кангеніяльны сваёй камсамольскай маладосьці сымбаль — Лядовы палац, цэнтар культуры і адпачынку.

## Унівэр Грубэра

Часам асфальтоўку зь Менску называюць апэндыксам, падкрэсьліваючы тым тупіковае месцазнаходжаньне рэгіёну — у параўнаньні з восьсю Масква-Варшава, «экватарам Беларусі». Дасьціпна, але няслушна. Капіляры гісторыі, што канцэнтруюцца на Полаччыне, важнейшыя ад транспартных артэрыяў. Хай па капілярах гэтых ня йдзе нафта, але прыходзіць па іх да беларушчыны моладзь — рэсурс стратэгічны. Наваполацак у пэўным сэнсе застаецца і дасюль «камсамольскай будоўляй» — толькі ўжо не імпэрскай, а ўласнабеларускай. Дзякуючы прытоку сюды адукаванай і сьвядомай моладзі з усіх куткоў Беларусі — Уладзімера Філіпенкі ды Юрася Насевіча зь Меншчыны, Вольгі Емяльянчык ды Віталя Галубовіча з Гарадзеншчыны, Зьмітра Сасноўскага з Гомельшчыны ды зь дзясятку іншых асобаў, пералічыць імёны якіх, да гонару гораду, ужо складана, — сфармаваны выкладчыцкі склад гуманітарных факультэтаў тутэйшага ўнівэрсытэту. Унівэрсытэт зьяўляецца адной з галоўных «кропак разьвіцьця» для ўсяго рэгіёну. Рухаючыся да традыцыяў Акадэміі Грубэра, ён можа «адыграць» назад для беларушчыны тое, што напоўніцу яшчэ не скарыстана нашай культурай — міт унівэрсытэцкага гораду, роўнага некалі па бляску сваіх імёнаў лепшым унівэрсытэтам Эўропы.

## Тут былі мы

Кожны навапалачанін мае магчымасьць глядзець тры мясцовыя TV-студыі ў дадатак да 14 тэлеканалаў, сярод якіх ёсьць нямецкія і польскія, але большасьць — маскоўскія. «Местачковы глябалізм» — мовяць экспэрты, але гэта так па-наваполацку — жыць сярод хімэраў. Культурныя хімэры вылучаюцца агрэсіяй, але ж і энтрапіяй. Наваполацак — гэта горад, якога ня будзе. Ён мусіць зьнікнуць, мінуцца як маладосьць, разышоўшыся ў тысячагодзьдзях Полацку — на другі дзень гэтай лякуны на мапе не заўважыць ніхто. На культурнай мапе Беларусі яго ўжо няма — Наваполацкі ўнівэрсытэт, напрыклад, мянуецца Полацкім, тэвэлаўскія праекты, узьніклыя на наваполацкай глебе, прэзэнтаваліся як полацкія — і гэтак далей. Хіба толькі пад тутэйшымі графіці Полацак ніколі не падпішацца: «Мы — Богі», «ЛСД — атрута», «Скалі, ісьціна недзе побач», «Лука? Хто гэта?», «Свабоду Шараю» — іміджу першасталіцы яны непавабныя. Зрэшты, Полацак не застанецца ранейшы, атрымаўшы ў пасаг экалягічныя фобіі, алергіі, істэрн — усё чалавечае, зачалавечае.

## Зусім маргінальнае

Заправіўшы ў кухаль першы Лекерт, прыпаў да вакна. У прыцэле форткі — вясна.

# ГАЛЬШАНЫ

У кожнага чалавека ёсьць мясьціны, добра вядомыя й заўсёды прыцягальныя, мясьціны, куды хочацца вяртацца зноў і зноў. Шмат для каго, як і для мяне самога, акрамя Полацку ды Крэва — знакавых у кожнай беларускай душы — гэткаю мясьцінаю ёсьць Гальшаны.

Апошнім разам патрапіць сюды аказалася незвычайна цяжка. Раней на лясным ускрайку збоч ад шырокае гравейкі з Баруна ў падарожніка сустракала адзінокая пашарпаная табэля з папярэджаньнем аб пачатку памежнае зоны ды неабходнасьці адмысловага дазволу дзеля таго, каб рушыць далей. Ды гэта было, напэўна, самаю важкай, калі не адзінай, перашкодаю на зручным ды вольным гасьцінцы. Цяпер табэля зьнікла. Затое наш самаход ня менш, як зь дзясятак кілямэтраў груз у мяккі руды пясок, аб'яжджаючы пакінутыя пасярод дарогі агромністыя аблупленыя грэйдары ды густа, нібы знарок, раскіданае буйное каменьне. Нарэшце дарожны зьдзек скончыўся, і маленькі сталічны транспарт з добра падзёртым падчэраўем ды пераможным настроем выкаціўся на ратавальны гальшанскі асфальт.



Фота Алены Адамчык

Сёньняшнія Гальшаны мала падобныя да колішняга славутага мястэчка. Заводы, што выраблялі паліваную кафлю, майстэрні, магутныя млыны, паперня — усё гэта цяпер толькі згадка сівой мінуўшчыны. Вось і здаецца часам, што тыя Гальшаны са сваім дзіўным палацам (гэтак падобным да флямандзкіх кастэляў Бэсэнштэйн ды Клейдаэль, што пад Антвэрпэнам), буйнымі кірмашамі, што ладзіліся на плошчы ля паважнага барочнага касьцёла некалькі разоў на год, ды непараўнальным майстэрствам местачкоўцаў у вязцы рукавіцаў, панчох ды славутых «гальшанскіх каптаноў» назаўсёды сышлі ў нябыт...

Але гэтак толькі здаецца. Дастаткова прытуліцца сьпінай да аблепленае шэрымі рыштаваньнямі сьцяны старога францішканскага кляштару ці пакласьці далоню на халодныя ружовыя цагліны раскіданага сапегаўскага замку, як адчуваеш, што адвечныя Гальшаны ўсё яшчэ жывуць сваім самаістым таемным жыцьцём і ўсё яшчэ лунае магутны жыцьцятворны дух над напаўзьнішчанымі, але няскоранымі мурамі.

Першыя старонкі тутэйшае гісторыі цалкам зьвязаныя з жыцьцём князёў Гальшанскіх, выдатным родам, які, аднак, спыніў сваё існаваньне ў 1556 годзе. І віною тому, як ня дзіва, сярод іншых чыньнікаў і празьмерная прыхільнасьць да Маскоўскае дзяржавы. Ці то Аляксандар-Нялюб, што ўдзельнічаў у змове супраць вялікага князя Вітаўта; ці то Сымон, што рыхтаваў замах на жыцьцё вялікага князя Сьвідрыгайлы; ці то Іван Юр'евіч — змоўца супраць вялікага князя Казіміра, які гэтак марыў перайсьці разам з усходнімі землямі Вялікага Княства ажно да Бярэзіны пад уладу вялікага маскоўскага князя Івана Трэцяга — усе яны альбо проста загінулі праз свае палітычныя прыязнасьці, альбо, у лепшым выпадку, назаўсёды пакінулі Літву ды аселі на Маскоўшчыне...

Праўда, жаночая галіна радаводу Гальшанскіх, так бы мовіць, ратавала, як магла, сытуацыю. Гэтак, княжна Іўліянія была жонкаю тога самага Вітаўта, княжна Сафія — Ягайлы (пасьля Ядзьвігі). Менавіта яна, нарадзіўшы сыноў Уладзіслава ды Казіміра — будучых польскага караля ды вялікага князя літоўскага, сталася пачынальніцаю дынастыі Ягелонаў. Апошняя ж з гальшанскіх княжон, Алена, у 1525 годзе выйшла за Паўла Сапегу, ды з гэтага часу самі Гальшаны зрабіліся сапегаўскаю айчынай.





Мураваны францішканскі кляштар з касьцёлам Яна Хрысьціцеля быў узьведзены ў 1618 годзе (касьцёл перараблялі пры канцы XVIII ст., кляштар жа застаўся амаль некрануты). З гэтаю камяніцай зьвязанае вядомае гальшанскае паданьне.

Распавядаюць, што пад час пабудовы кляштарных карпусоў адна з апорных сьценаў ніяк не хацела стаяць ды некалькі разоў, ужо амаль скончаная, бурылася сама сабой. Раззлаваны фундатар, ня хто іншы, як староста Вялікага Княства Павел Сапега, паабяцаў нарэшце пакінуць без заробку майстроў, калі кляштар ня будзе скончаны ў тэрмін. Засмучоныя будаўнікі, сабраўшыся на раду, вырашылі пайсьці на скрайні сродак ды прынесьці чалавечую ахвяру. І вось маладзіца, што першая прынесла мужу-муляру абед, была схопленая ды жыўцом замураваная ў цокаль злашчаснае сьцяны... Кляштар прастаяў непарушна да сёньняшніх дзён. Праўда, кажуць, што й дагэтуль у адным зь ягоных пакояў часам зьяўляецца самотны прывід у старадаўнім адзеньні.

Гэтая гісторыя, напэўна, і засталася б страшнаю старавечнаю казкай, каб не яе нечаканы працяг, аб якім распавядае спадарыня Часлава Акулевіч, загадчыца гальшанскае філіі Мастацкага музэю, што месьціцца цяпер у старых кляштарных мурох. Колькі гадоў таму, вывучаючы цокальную частку аднае са сьцен, дасьледчыкі патрапілі на непаразумелую нутраную пустоту. Ускрыўшы яе, са зьдзіўленьнем убачылі спарухнелы чалавечы шкілет, літаральна ўціснуты ў невялічкую нішу. Тэрмінова пакліканы мясцовы доктар засьведчыў, што хутчэй за ўсё маладая жанчына (!) загінула ненатуральнаю сьмерцяй. Ад кантакту з паветрам косткі хутка рассыпаліся ў пыл, а магутная апорная сьцяна праз некалькі дзён дала вялізную расколіну...

Апошнім часам Дзяржаўны Мастацкі музэй ды Міністэрыя культуры вырашылі, што гальшанскі кляштар ня мае сур'ёзнае культурна-гістарычнае вартасьці, ды з гэтае нагоды зьбіраюцца тутэйшую філію музэю зьліквідаваць. Значыцца, ня ўсім хочацца вяртацца сюды зноў і зноў. Так ці йначай, але «заклаў Гольша горад на рацэ Карабель...», і сталіся на Беларусі — паводле «Кронікі Быхаўца» — больш, як сем соцень гадоў таму, Гальшаны.

**Андрэй Захаранка**



навіны

### Партрэты жывых

У Музэі гісторыі беларускай літаратуры, што ў Траецкім прадмесьці, адчынілася выстава партрэтаў клясыкаў айчыннай літаратуры пэндзля Міхася Будавея і фантастычных краявідаў Беларусі Вячаслава Паўлаўца. Дырэктар Аб'яднаньня дзяржаўных літаратурных музэяў Леанід Хадкевіч дазволіў мастакам выставіць партрэты Ларысы Геніюш і Алеся Адамовіча, але загадаў прыбраць у нябачны куток партрэт Васіля Быкава, каб не цьвяліць Міністэрства культуры. Алесь Разанаў кажа, што ён на сваім партрэце выйшаў больш жывы, чым у сваім целе.

### Памяці Карпюка

У гарадзенскім клюбе «Паходня» і ў менскім Доме Літаратара прайшлі вечарыны памяці Аляксея Карпюка, якому сёлета магло б споўніцца 80 гадоў. Удзельнікі з горыччу казалі, што памяць пісьменьніка-дысыдэнта брэжнеўскай пары ня можа быць ушанаваная належным чынам пры цяперашняй уладзе. Дзяржвыдавецтва «Мастацкая літаратура» адмовілася ад намеру выдаць ягоныя партызанскія дзёньнікі і эсэ «Разьвітаньне з ілюзіямі», выкінула з пляну разам з кнігамі Л.Геніюш і В.Быкава, якіх Карпюк калісь бараніў ад паклёпнікаў.

### Голубеў нямілы

Скульптару Ігару Голубеву, аўтару помнікаў Уладзімеру Караткевічу ў Воршы й Напалеону Орду ў Янове, Міністэрства культуры не дае дазволу на ўзьвядзеньне помніка Эўфрасіньні Полацкай на яе радзіме, хоць Полацкі гарвыканкам ужо прызначыў быў адкрыцьцё манумэнту на 23 траўня. Экспэртная рада Мінкульту палічыла недастаткова ўрачыстым вобраз асьветніцы, створаны Голубевым, і пастанавіла абвесьціць рэспубліканскі конкурс праектаў помніка Сьвятой Эўфрасіньні, які, як зазвычай, расьцягнецца на доўгія гады.

**Юрась Барысевіч**

### Рыцар-шоў «Гедымін»

Больш за год рыхтаваў полацкі рыцарскі клюб «Жалезны воўк» спэктакаль «Гедымін». Імпрэза рабілася як сцэнічны маніфэст. 14 красавіка прэм'ера адбылася ў залі Полацкага ўнівэрсытэту. У пастаноўцы дапамагаў студэнцкі тэатар «Крэда». Спэктакаль апавядае пра барацьбу Гедыміна з «крыжакамі» і мудрае будаўніцтва краіны. Акторы гралі ў баявой рыцарскай вылдадцы. Баі на лапіку сцэны ішлі такія, што іскры ад мячоў ляцелі ў залю. Ва ўсіх дух заняло, калі забіты «крыжак», закаваны ў жалеза, паляцеў з карчомнага стала на падлогу. Бразгату было — страх!

**А.А.**




Новы нумар «Фрагмэнтаў» можна набыць на сядзібах ТБМ і БНФ.

# «ПАГОНЯ» З ГУРКАМІ




Выстава мастацкае суполкі «Пагоня», перанесеная з Дня Волі, адкрылася 14 красавіка ў малой залі Палацу Мастацтваў. Як сказаў на адкрыцьці Мікола Купава: «25 сакавіка працягваецца й жыве штодня ў нашых сэрцах». Роўна а шостай на своеасаблівы подыюм выйшлі ў сураваджэньні навачасных шляхцюкоў і рыцараў дзяўчаты з славутага ансамблю «Госьціца». У часе іхных паганскіх скокаў ды сьпеваў пачалася наймацнейшая прытока людзей у фае Палацу — аж цяжка стала стаяць, бо на чатыры сотні наведнікаў зь дзьвярэй напіралі новыя. А дзясятай хвіліне на сёмую не ставала месца ўжо й на ганку. Сярод прысутных былі заўважаныя вядомыя людзі, не было толькі Алеся Пушкіна, які не ўшанаваў публіку абяцаным пэрфомансам.

Па «Госьціцы» першым выступіў намесьнік старшыні Саюзу Мастакоў Уладзімер Басалыга. «Ідэя Волі жыве ў сэрцы нашага народу, і безь яе немагчымае нашае існаваньне». Народны трыбун Ніл Гілевіч крануў сэрца кожнага прысутнага: ён ня толькі паскардзіўся на цяперашняе становішча мовы й культуры, адцеміўшы, што «нават за сталінскім часам не было гэткага разьюшанага наступу» на ўсё беларускае, але закончыў прамову баявітым вершам і аптымістычнай нотаю, маўляў, цяпер нас цісьнуць ворагі беларушчыны, быццам перад немінучай пагібельлю, але «ня нашай»! Сапраўды, нашае пагібелі ім не дачакацца: вялікая доля наведнікаў была маладзейшага пакаленьня, што вымушала выступоўцаў увесь час спасылацца на моладзь.

Выстава вылучылася кампазыцыяй: на ўваходзе — у цэнтры экспазыцыі — сустракае Марачкінаў «Мірон», перавезены з франтаўскай сядзібы; ад яго заля нібы падзеленая на палітызаваную частку й пэйзажна-натурмортавую. Апошняя вылучаецца абразом Аўгена Ціхановіча «Катэдральны пляц у Менску ў 1927 г.» і «Квітнеючым бацькавым кошыкам» мастака В.Мікіты. Але ўсе наведнікі найперш імкнуліся да графічных працаў Алега Карповіча з сэрыі «Аблічы загінулага году», дзе паўстаюць знаёмыя твары Тамары Віньнікавай (аўтар выявіў экс-банкірку ў арэоле пакутніцы), Сямёна Шарэцкага (за сталом з шыльдаю «Прэзыдэнт ад 21.07.1999 г.» і з навіслымі па-над ім езуіцкімі тварамі Лукашэнкі й Шэймана), гэтаксама адлюстраваныя Генадзь Карпенка, Сяргей Лінг у форме піянэра, Алесь Пушкін, Юры Захаранка; асобна вылучаецца абраз спалоханай дзяўчыны зь пераходу станцыі мэтро «Нямігі».

Аўген Кулік выставіў яшчэ аднаго пэрсанажа сваёй сэрыі гістарычных асобаў Полацкага княства — Брачыслава Ізяславіча, бацьку Ўсяслава Чарадзея. Віктар Сташчанюк — палатно «Навагрaдак. Замак. Сьнег», Юры Піскун — такія ж пэсымістычныя «Жыдоўскія могілкі». Уладзімер Крукоўскі стварыў трыпціх, прысьвечаны песьняру Літвы Адаму Міцкевічу — па-над дзьвюма «і» ў прозьвішчы паэта лунаюць бел-чырвона-белы й бела-чырвоны сьцягі. Вельмі прымірэнчае ўражаньне дае палатно на заходніх суседзяў палатно (на карысьць гэтага й лацінскі подпіс: «Gente Lituanum Natione Polonum»). Рыгор Сітніца, выстаўляючы штогод свае графічныя выявы Мірскага замку, і сёлета застаўся адданы традыцыі, але гэтым разам пярліна беларускага дойлідзтва пакаранае ў колеры.

Аляксей Марачкін выставіў творы, адзін да аднаго непадобныя, але сугучныя паводле сэнсавага напаўненьня. «Татка!.. Уставай, ужо ідуць!» — стаіць ля паркану хлопчык зь бела-чырвона-белаю стужкаю ды з палкаю, у вачох трывога й страх, адначасова адчуваецца трагічная бездапаможнасьць перад гвалтам прыхадняў і ахвярнасьць, гатовасьць стаяць да канца ў абароне свайго дому. У другім творы, «Расейскай прыпеўцы», Марачкін іранізуе — намаляваў расейскага жаўнера, абкуранага п'янюгу, за сьпінаю якога на менскі пляц Незалежнасьці ўяжджаюць маскоўскія танкі (побач подпіс: «Проглотить весь мир стремились, да Чечнёю подавились, а поскольку жрать хотим — белорусов проглотим»).

Цьвік экспазыцыі — інсталяцыя Алега Карповіча й Пятра Русака «Вясна-2000. Час ~~саліць~~ мочить агуркі»: на жалезных падпорах трымаецца парадны партрэт «рымскага патрыцыя» А.Г. у вянку з дубовага лісьця, перад ім два сьвежыя агуркі, а на падлозе, пад абразом, слоік з салёнымі агуркамі. І ўсе прадукты сьвежыя! Такі й дух усёй выставы.

**Віктар Мухін**

P.S. Як стала вядома, у першую ж ноч пасьля вэрнісажу няясна куды зьнікла цэнтральная інсталяцыя — прычым ахова Палацу Мастацтваў нічога не заўважыла.

# Замяталін супраць Мудрова

Бэстсэлерам беларускага андэграўнду на Полачыне летась стаў аповед Вінцэся Мудрова «Іду на таран!» Напачатку ён быў надрукаваны ў «Калосьсі», пасьля — у зборніку прозы «Зімовыя сны». Жанар гэтага твору можна акрэсьліць як трагікамэдыю. Сюжэт такі: паветраны шар з казачнымі малышамі-карантышамі на чале з Знайкам, якіх выпадкова занесла ў Беларусь, зьбіваюць супрацьпаветраныя сілы краіны, палкоўнікі якой падпарадкоўваюцца прапаршчыкам з Генштабу Расеі. Выканаць пастаўленую задачу было ня так проста. У адказную хвіліну выпрабаваньня надзейнасьці паветранага шчыта, які абараняе СНГ ад NATO, раптам склалася няпростая сытуацыя: з-за недахопу паліва, якое вайсковыя тарбахваты прадалі налева, немагчыма скарыстаць моц ВВС. Выналодлівыя афіцэры беларускай СПА знаходзяць іншы мэтад абясшкодзіць «праціўніка»... Чытачы параўноўвалі «Іду на таран!» з «Чонкінам» Вайновіча.

Сытуацыя з чытачамі ў Беларусі асаблівая. Кожны на пералік — дарагі і любімы. На пачатку 2000 году стала вядома яшчэ пра аднаго чытача наваполацкага празаіка, адмысловага і «ўдумлівага». Замяталіна. Пасьля таго, як 55-ы нумар «Крыніцы» надрукаваў апавяданьне Мудрова «Гарачае лета 00-га», новую рэдактарку выданьня Галіну Булыку «прыўрадавы» чытач выклікаў у свой кабінэт. Каб падзяліцца ўражаньнямі аб прачытаным. Карацей, Мудрова больш друкаваць у «Крыніцы» ня будуць. Але, дзякуй Богу, ёсьць недзяржаўныя выданьні. Замяталін зачапіў гонар Мудрова, у адказ Мудрoў напісаў чатыры новыя аповеды, якія ўжо ўсе разабраныя па недзяржаўных часопісах.

**Алесь Аркуш**

сагі ад прапаршчыка

### Астатняя цыгарэта

Адзін мужык паліў цыгарэту і балбатаў. Пры гэтым ён вельмі махаў рукамі, не зважаючы, якім чынам трымае напалак. І вось неяк раз мужык ня зьмеціў, як да вуснаў паднёс ня фільтар, а зваротны бок, і вельмі абпаліўся. У выніку ў яго разьвіўся рак вуснаў, і неўзабаве пасьля цяжкіх мукаў небарака сканаў.

Занатавана ад «ваўка каравульнай службы» прапаршчыка Атокі. Тыповая сага з чалавечымі страхамі сучаснасьці.

### Кароль

Адзін даўдон падпіў надта і, прыйшоўшы дадому, стаў выхоўваць жонку і дзяцей. Ганяючы іх папругаю па хаце, ён утрапёна паўтараў: «Я — кароль! Я — кароль!» Жонка аднак хапіла нешта важкае ды пераехала яму па мухаморах, ажно той вырубіўся. Прачнуўся ён ураньні зьвязаным. Бачыць, жонка зь сякерай у руках прамаўляе: «Ну што, каролю?» Мужыку сталася кепска ў дадацьце ад бадуна. Жанчына ж паклала яго галавой на зэдлік ды накрыла падушкаю. Размахнулася сякерай ды грукнула — але толькі абушком па падлозе. Нягеглы п'янтос ня вытрываў напружаньня ды памёр ад разрыву сэрца. Дзеці бегалі вакол нябожчыка і паўтаралі: «Ура, караля забілі, караля забілі».

Таксама ад прапаршчыка. Бытавы сюжэт ператвораны ў бурлеск шэксьпіраўскіх п'есаў. А во: пі, але не запівайся!

### Сьляпая ярасьць

Нейкі мужык вярнуўся, як звычайна, дамоў і ўбачыў, што жонка сядзіць за сталом зь незнаёмым мужчынам. Стол жа быў сьвяточна аздоблены кветачкамі, стравамі, каробкай з цукеркамі. Тамака ж стаяла і неадкаркаваная пляшка з шампанскім. У мужа адразу глузды закіпелі, ён прыняў госьця за жончынага палюбоўніка. Ён за нож, і зарэзаў бахура. Ды ўжо праз хвілю ярасьць апала, і забойца зразумеў, што забіў колішняга аднаклясьніка, якога даўненька запрашаў у госьці. Вось ён і завітаў.

Запісана ад прапаршчыка. Не зважаючы на агульны трагізм гісторыі, апавядальнік падае яе жыцьцярадасна. *Jedem das seinen* — як казалі нямецкія фашысты.

**Сяргей Балахонаў**



*Гайке Рушмайер (1989/90, алей)*

# СТО БЕЛАРУСКІХ КНІГ XX СТАГОДЗЬДЗЯ

Насуперак прагнозу, назвы кніг у рэдакцыйнай пошце ня толькі паўтараюцца, але ўвесь час дадаюцца новыя. Нягледзячы на тое, што агульны рэдакцыйны сьпіс дасягнуў ужо васьмі з палавай сотняў.

Сяржук Лісічонак зь Менску даў характарыстыку кожнай з прапанаваных ім кніг:

«Заўсёды пільна сачу за Вашымі 100 лепшымі кнігамі XX ст. Цудоўная рэч. Дапамагае адшукваць самае каштоўнае, што мусіць быць прачытана зь беларускай літаратуры.

Перш за ўсё ў маім сьпісе стаіць Караткевіч зь ягонымі «Каласамі». Для мяне гэтая кніга мае эпахальны характар, падзяляючы жыцьцё на дзьве часткі: маўклівы сорам за Беларусь і нацыянальнае абуджэньне. Памятаю, як быццам бы разарвалася бомба ў душы, як запалала зыркім полымем пагарда да беларускага і як на яе месцы ўзьнікла адчуваньне гонару за Краіну, за Культуру і Гісторыю. Для мяне «Каласы» — кніга кніг».

Сяржук Лісічонак вучыцца на юрыдычным факультэце, таму ўключыў у свой сьпіс і спэцыяльную літаратуру, якая ў апошнія гады зьявілася на беларускай мове — сучаснае выданьне «Статуту ВКЛ», кнігі Яэпа Юхо, «Крымінальнае права» ды іншыя.

Уладзімер Закрэўскі зь Менску дадаў «Нарачанскія сосны» Максіма Танка, кнігі паэзіі Аркадзя Куляшова і Леаніда Галубовіча, якія раней ня згадваліся.

А Вячка Васілёнак зь Менску ўпершыню назваў нядаўнюю кнігу Янкі Брыля «Вячэрняе».

Спадар Вячка піша: «У савецкія часы выкладаньне гісторыі ў школе было такое, што малады чалавек, скончыўшы гэтую самую школу, быў упэўнены, што Беларусь з часоў нэаліту і аж да XXV зьезду КПСС была неад'емнай часткай СССР. Таму асабіста на мяне найбольшае ўражаньне зрабілі кніжкі, у якіх можна было даведацца пра сапраўдную мінуўшчыну Бацькаўшчыны. І першай з такіх кніжак стала «Рэха даўняга часу» Пазьняка. Адначасна ж з Купалам, Коласам, Мележам крыху папсаваныя той самай школьнай праграмай, дый самім выкладаньнем. Разумею, што гэта не нармальна і спадзяюся, што зь цягам часу становішча выправіцца. Наогул жа найлепшай беларускай кнігай усіх часоў лічу «Тараса на Парнасе» і «Энэіду навыварат». Але гэта XIX ст. і, напэўна, тэма для асобнае размовы».

Уладзімер Ермаловіч з Барысава аддаў свой голас за вядомыя кнігі, якія ўжо ёсьць у нашым сьпісе. А спадар Хрыстоўскі зь Менску згадаў неназываная «Чужое неба» Барыса Сачанкі.

Юрась Чаранкоў з Мазыра свой рэйтынг кніг складаў пад уражаньнем толькі што прачытанага рамана Кастуся Акулы «За волю». А пэнсіянэр Антон Станчык са Станчыкаў Ляхавіцкага раёну назваў (упершыню) Буквар, а таксама кнігі В.Гардзея, М.Купрэева, В.Праскурава, Хв.Шынклера. У прыпісцы да свайго ліста спадар Антон кажа: «Гэтыя кнігі зрабілі найбольшае ўражаньне на мяне. А сто кніг я мо і не прачытаў за ўсё жыцьцё».

Дзякуем усім, хто бярэ ўдзел у нашым рэйтынгу і заклікаем усіх астатніх — пішыце. Чым больш будзе сьпісаў, тым больш аб'ектыўную карціну мы ўсе ўбачым сёлета на Каляды.

**Крыт.**



Фота Міхала Баразны

## Рэйтынг аўтараў

*(паводле сьпісу «Сто кніг XX ст.»)*

Караткевіч Уладзімер 219
Быкаў Васіль 177
Купала Янка 118
Колас Якуб 107
Гарэцкі Максім 80
Ластоўскі Вацлаў 74
Арлоў Уладзімер 64
Ермаловіч Мікола 60
Багдановіч Максім 57
Геніюш Ларыса 54
Чаропка Вітаўт 52
Мележ Іван 47
Тарасаў Кастусь 46
Сагановіч Генадзь 45
Гілевіч Ніл 43
Маўр Янка 38
Арсеньнева Натальля 35
Дайнека Леанід 35
Брыль Янка 33
Тарашкевіч Браніслаў 33
Адамовіч Алесь 32
Разанаў Алесь 31
Аляхновіч Францішак 29
Ігнатоўскі Ўсевалад 29
Смоліч Аркадзь 28
Цётка 27
Алексіевіч Сьвятлана 26
Віцьбіч Юрка 26
Туронак Юры 24
Барадулін Рыгор 23
Гарун Алесь 20
Крапіва Кандрат 20
Шамякін Іван 20
Акула Кастусь 19
Ткачоў Міхась 19
Доўнар-Запольскі Мітрафан 18
Чорны Кузьма 18
Глёбус Адам 17
Далідовіч Генрых 17
Калесьнік Уладзімер 17
Калубовіч Аўген 17
Танк Максім 17
Цітоў Анатоль 17
Вядзьмак Лысагорскі 16
Кіпель Вітаўт 16
Мальдзіс Адам 16
Станкевіч Ян 16
Дубоўка Уладзімер 15
Жылка Уладзімер 15
Лынькоў Міхась 15
Пазьняк Зянон 15
Станкевіч Адам 15
Адамчык Вячаслаў 14
Бядуля Зьмітрок 14
Касяк Іван 14
Мрый А. 14
Стральцоў Міхась 14
Цьвікевіч Аляксандар 14
Абдзіраловіч Ігнат 13
Адамовіч Славамір 13
Найдзюк Язэп 13
Сямашка Яўген 13
Карскі Яўхім 12
Лёсік Язэп 12
Улашчык Мікола 12
Іпатава Вольга 11
Лойка Алег 11
Сяднёў Масей 11
Грахоўскі Сяргей 10
Салавей Алесь 10
Сыс Анатоль 10
Каліноўскі Кастусь 9
Сачанка Барыс 9
Байкоў Мікола 8
Лукашук Аляксандар 8
Луцкевіч Антон 8
Некрашэвіч Сьцяпан 8
Юхо Язэп 8
Ядвігін Ш. 8
Яновіч Сакрат 8
Буйло Канстанцыя 7
Бутрамееў Уладзімер 7
Гайдук Мікола 7
Карпюк Аляксей 7
Панчанка Пімен 7
Раманюк Міхась 7
Шчакаціхін Мікола 7
Запруднік Ян 6
Зарэцкі Міхась 6
Кісялёў Генадзь 6
Куляшоў Аркадзь 6
Пранчак Леанід 6
Сокалаў-Воюш Сяржук 6
Александровіч Сьцяпан 5
Каганец Карусь 5
Купрэеў Мікола 5
Лыч Леанід 5
Макаёнак Андрэй 5
Мінкін Алег 5
Пташнікаў Іван 5
Рубанаў Уладзіслаў 5
Саверчанка Іван 5
Сваяк Казімер 5
Федарэнка Андрэй 5
Чыгрынаў Іван 5
Янкоўскі Фёдар 5

## сто твораў

Багдановіч М. Вянок (54)
Караткевіч Ул. Дзікае паляваньне караля Стаха (48)
Быкаў В. Знак бяды (41)
Караткевіч Ул. Каласы пад сярпом тваім (40)
Колас Якуб. Новая Зямля (40)
Сагановіч Г. Невядомая вайна (39)
Караткевіч Ул. Чорны замак Альшанскі (37)
Ермаловіч М. Старажытная Беларусь (35)
Купала Янка. Спадчына (34)
Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка для школаў (33)
Геніюш Л. Споведзь (32)
Ластоўскі В. Кароткая гісторыя Беларусі (31)
Мележ І. Людзі на балоце (31)
Колас Якуб. На ростанях (30)
Быкаў В. Сотнікаў (29)
Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (29)
Маўр Янка. Палескія рабінзоны (29)
Арлоў Ул. Таямніцы полацкай гісторыі (28)
Караткевіч Ул. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (28)
Смоліч А. Геаграфія Беларусі (28)
Чаропка В. Імя ў летапісе (28)
Аляхновіч Ф. У кіпцюрох ГПУ (27)
Тарасаў К. Памяць пра легенды (27)
Арсеньнева Н. Пад сінім небам (26)
Купала Янка. Жалейка (26)
Ермаловіч М. Па сьлядах аднаго міту (25)
Быкаў В. Альпійская баляда (24)
Караткевіч Ул. Зямля пад белымі крыламі (24)
Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (24)
Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі (24)
Быкаў В. Сьцяна (23)
Гарэцкі М. Рунь (23)
Колас Якуб. Сымон-музыка (21)
Ластоўскі В. Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік (21)
Архітэктура Беларусі. Энцыкляпэдыя (19)
Віцьбіч Юрка. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (19)
Гарэцкі М. Дзьве душы (18)
Гарун Алесь. Матчын дар (17)
Геніюш Л. Ад родных ніў (17)
Гілевіч Н. Родныя дзеці (17)
Цётка. Хрэст на свабоду (17)
Акула К. Змагарныя дарогі (16)
Дайнека Л. Сьлед ваўкалака (16)
Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі (16)
Купала Янка. Тутэйшыя (16)
Мысьліцелі й асьветнікі Беларусі (16)
Разанаў А. Вастрыё стралы (16)
Ткачоў М. Замкі Беларусі (16)
Беларусь. Энцыкляпэдычны даведнік (15)
Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры (15)
Кіпель В. Беларусы ў ЗША (15)
Тарасаў К. Пагоня на Грунвальд (15)
Адамовіч А., Брыль Я., Калесьнік Ул. Я з вогненнай вёскі (14)
Алексіевіч С. У вайны не жаночае аблічча (14)
Быкаў В. Аблава (14)
Калубовіч Аўген. Крокі гісторыі (14)
Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі (14)
Цьвікевіч А. «Западно-руссизм» (14)
Абдзіраловіч Ігнат. Адвечным шляхам (13)
Мрый А. Запіскі Самсона Самасуя (13)
Найдзюк Я. і Касяк І. Беларусь учора і сяньня (13)
Сямашка Я. Армія Краёва на Беларусі (13)
Дайнека Л. Меч князя Вячкі (12)
Карскі Я. Беларусы (12)
Караткевіч Ул. Быў. Ёсьць. Буду (11)
Караткевіч Ул. Нельга забыць (11)
Станкевіч А. Родная мова ў сьвятынях (11)
Этнаграфія Беларусі. Энцыкляпэдыя (11)
Адамчык В. Чужая Бацькаўшчына (10)
Барадулін Р. Эвангельле ад мамы (10)
Вядзьмак Лысагорскі. Сказ пра Лысую гару (10)
Ілюстраваная храналёгія гісторыі Беларусі (10)
Скарына. Энцыкляпэдыя (10)
Сто пытаньняў і адказаў з гісторыі Беларусі (10)
Чаропка В. Уладары Вялікага княства (10)
Алексіевіч С. Цынкавыя хлопчыкі (9)
Археалёгія і нумізматыка Беларусі. Энцыкляпэдыя (9)
Каліноўскі К. (Бел. кнігазбор) (9)
Крапіва Кандрат. Байкі (9)
Лынькоў М. Міколка-паравоз (9)
Мележ І. Палеская хроніка (9)
Сыс А. Пан Лес (9)
Цётка. Скрыпка беларуская (9)
Брыль Я. Птушкі і гнёзды (8)
Быкаў В. У тумане (8)
Гілевіч Н. У добрай згодзе (8)
Крапіва Кандрат. Хто сьмяецца апошнім (8)
Купала Янка. Жыве Беларусь (8)
Менская вясна — 1996 (8)
«Наша Ніва». Факсыміле (8)
Некрашэвіч С., Байкоў М. Беларуска-расейскі слоўнік (8)
Салавей Алесь. Нятускная краса (8)
Статут 1588. Сучаснае выданьне (8)
Танк Максім. На этапах (8)
Цітоў А. Гарадзкая геральдыка Беларусі (8)
Энцыкляпэдыя прыроды Беларусі (8)

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

С.Падокшын. С.Сокал. **Палітычная і прававая думка Беларусі XVI—XVII ст.**/ Сэрыя «Гісторыя Бацькаўшчыны», дадатак да часапіса «Права і эканоміка». 2-е выданьне, дапоўненае. — Менск: 2000. — 120 с. — Наклад 280 ас. ISBN 985-442-028-6

*Кніга выдаецца другога разу й прызначаная студэнтам у якасьці дапаможніка.*

С.Янчанка ды іншыя. **Слоўнік катэгорыяў эканамічнае тэорыі.**/ Сэрыя «Эканоміка», дадатак да часапіса «Права і эканоміка». — Менск: 1999. — 288 с. — Наклад 200 ас. ISBN 985-6194-99-9

*Слоўнік у пэўнай ступені скалькаваны з расейскае мовы. Шмат тэрмінаў выклікаюць пытаньне: ці імкнуліся аўтары пільнавацца жывое беларускае мовы, ці ўсё ж арыентаваліся на «нормы» савецкага часу? Што да зьместу, дык можна сустрэць і гэткае (с.118): «Манэты, што сёньня знаходзяцца ў абарачэньні, адбіваюцца з 1961 году».*

**Замовы**/ Укладальнік Н.Гілевіч; Мастак Г.Грак. — Менск: Беларускае таварыства «Кніга», 2000. — 172 с., іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6605-01-6

*Лепшыя ўзоры беларускіх замоваў у сучасных запісах зьмешчаныя ў маленечкай кніжцы. Ніл Гілевіч піша ў прадмове: «Слова ў замовах надзеленае магічнай сілай. З гэтага, зазначым, і пайшла ў сьвет, у жыцьцё людзей паэзія».*

М.Бобрык. **Як разбуралі цэрквы.** — Менск: 1999. — Наклад 200 ас. — 38 с.

*Апавядаецца, як пры канцы 1930-х на Беласточчыне палякі касавалі праваслаўныя прыходы й пераабсталёўвалі цэрквы пад касьцёлы.*

**Вяртаньне да сваіх: Станіслаў Грынкевіч, Франук Грышкевіч, Уладыслаў Казлоўшчык.** Прадмова, укладаньне й камэнтары С.Чыгрына. — Беласток: Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай, 1999. — 190 с.

*Паэтычныя творы беларускіх нацыянальных дзеячоў міжваеннага часу ў Польшчы й пэрыяду нямецкай акупацыі 1941—44 г.*

**Kryúja:** Crivica, Baltica, Indogermanica. N1 (3), 1998. — Менск, 1998.

*Зь вялікім спазьненьнем толькі цяпер выйшаў трэці нумар гэтага выданьня. Тэксты Ў.Лобача «Чараўніцтва ў Беларусі на тле сярэднявечных судовых працэсаў», Ф.Клімчука «Да вытокаў фармаваньня ўсходнеславянскіх народаў», В.Губінай «З гісторыі вывучэньня беларуска-балтыйскіх сувязяў», С.Санька. Да кожнага тэксту падаюцца рэзюмэ па-ангельску й па-нямецку.*

А.Казлоў. **Нязгашаная свечка**: Апавесьці. — Менск: Мастацкая літаратура, 2000. — 222 с. — Наклад 1300 ас. ISBN 985-02-0070-7

Якуб Колас. **Мой родны кут**: Паэзія/ Укладаньне і ўступнае слова Р.Барадуліна. Для сярэдняга й старэйшага школьнага веку. — Менск: Мастацкая літаратура, 2000. — 383 с. — Наклад 6000 ас. ISBN 985-02-0210-6

Л.Руцкая. **Пазакласная праца па беларускай літаратуры**: Дапаможнік для настаўнікаў. — Менск: Мастацкая літаратура, 2000. — 165 с. — Наклад 7300 ас. ISBN 985-02-0230-0

А.Міцкевіч. **Вершы і паэмы**/ Укладальнікі А.Клышка і К.Цьвірка; Прадмова А.Лойкі. — Менск: Мастацкая літаратура, 2000. — 279 с. — Наклад 2500 ас. ISBN 985-02-0481-8

**Зборнік лепшых школьных твораў зь беларускае літаратуры**/ Аўтар-укладальнік А.Фралоў ды іншыя. — Менск: Юніпрэс, 2000. — 224 с. — (Усё для школы). — Наклад 11000 ас. ISBN 985-6588-18-9

*Сабраныя лепшыя творы зь беларускае літаратуры вучняў 6 — 11 клясаў.*

**Беларуская мова ў табліцах і схемах**: Навучальны дапаможнік для вучняў старэйшых клясаў сярэдняе школы/ Г.Валочка, Я.Лаўрэль, В.Красьней ды інш. -- Менск: ТАА «Юніпрэс», 1999. -- 192 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-6588-16-2

**Срэбны дождж.** Пераклады з ангельскамоўнае паэзіі А.Таболіч. — Менск: Беларускі калегіюм, 1999. — 112 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-45-9

*Ангельскія паэты ў арыгінале й перакладзе ў беларускую мову пайстаюць дзякуючы руплівай працы Алены Таболіч — аўтаркі «Ангельска-беларуска-расейскага слоўніка» (1989) і «Кішэннага ангельска-беларуска-расейскага слоўніка» (1995). Рэдактары кнігі Міхась Скобла й Лявон Баршчэўскі.*

**Агляд кніг падрыхтаваў Віктар Мухін**

